ПАЛІТКУХНЯ

# Вольга КАВАЛЬКОВА: «Мы ўпартыя!»



*Днямі Вярхоўны суд адмовіў у задавальненні скаргі на рашэнне Мінюста аб адмове ў дзяржаўнай рэгістрацыі партыі “Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя”.*

*“Народная Воля” пацікавілася ў аднаго з лідараў ствараемай партыі **Вольгі Кавальковай** планамі на палітычнае жыццё.*

– Пакуль мы працягнем працу ў выглядзе аргкамітэта, – *распавяла Вольга Кавалькова.* – І будзем ізноў рыхтаваць з’езд і падаваць дакументы на рэгістрацыю. Мы ўпартыя! Мы хочам працаваць у Беларусі, таму будзем спрабаваць атрымаць афіцыйную рэгістрацыю.

**– Вольга, а на якой падставе вам адмовілі?**

– Было некалькі пунктаў. Напрыклад, у кагосьці не былі пазначаны хатнія ці працоўныя нумары тэлефонаў. Але я лічу, што гэта ўжо састарэлае патрабаванне, бо сёння далёка не ўсе карыстаюцца хатнімі тэлефонамі – у асноўным мабільнымі, бо так прасцей заўсёды быць на сувязі. Ну а калі пазначана афіцыйнае месца працы, то даведацца пра працоўны тэлефон – не праблема.

Таксама было некалькі тэхнічных памылак – у нумарах кватэр заснавальнікаў партыі, напрыклад, замест 21 напісана 121.



задава... ...гунтаваны і не падлягае

Кіруючыся артыкулам 302 ГПК Рэспублікі Беларусь, суд

в ы р а ш ы ў:

адмовіць Партыйнай Радзе Партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" ў задавальненні скаргі на рашэнне Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 2018 года аб адмове ў дзяржаўнай рэгістрацыі Партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

Рашэнне ўступае ў законную сілу неадкладна пасля яго абвяшчэння, абскарджанню і апратэставанню ў касацыйным парадку не падлягае.

Старшынствуючы суддзя Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь — Н.І. Коўшун

Дакладна: суддзя Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь — Н.І. Коўшун

25 мая 2018 года

Яшчэ адна прычына адмовы ў тым, што, на думку Мінюста, тое памяшканне, якое нам прадставілі для юрыдычнага адраса, не падыходзіць для гэтай мэты. Хаця гэта новы будынак у Кобрыне. Больш за тое – там зарэгістраваны некалькі іншых юрыдычных асоб, якія маюць афіцыйную рэгістрацыю. Я запытвалася ў прадстаўнікоў Мінюста: ці можам мы пасля рэгістрацыі змяніць юрыдычны адрас? Канешне, можаце, – адказалі мне. Але пры гэтым мы атрымалі адмову ў рэгістрацыі.

Яшчэ адзін нюанс – наяўнасць заяў ад двух сябраў партыі аб тым, што яны не ставілі свой подпіс у якасці заснавальнікаў партыі. Прозвішчы гэтых людзей нам Мінюст не паведаміў, мы даведаліся пра іх толькі тады, калі пачалося судовае разбіральніцтва.

**– І што гэта за людзі? Ім пальцы дзвярыма прышчыкнулі, што яны адмовіліся ад сваіх подпісаў, ці што?**

– Я асабіста мела размову з гэтымі хлопцамі. Адзін сказаў, што нічога не пісаў і ўвогуле не ведае, пра што гаворка, ніякіх лістоў у Мінюст ён не накіроўваў. А ў Мінюсце сказалі, што ліст атрымалі па пошце, але на дакладнасць не правяралі: маўляў, дастаткова таго факта, што такая заява ёсць.

Другі сябра нашага аргкамітэта з Віцебска, ён працуе на дзяржаўнай пасадзе. Да яго прыйшлі на працу, правялі нейкую размову. Ён сказаў, што тыдзень не даваў ніякай інфармацыі, а потым яго проста папярэдзілі, што не працягнуць кантракт. І ён вымушаны быў пад ціскам напісаць заяву аб адкліканні свайго подпісу. Гэта было ўжо падчас рэгістрацыі партыі.

**– Дык а навошта было запрашаць у заснавальнікі партыі тых, на каго можна націснуць? Навошта рабіць стаўку на слабакоў? Самых надзейных, правераных людзей трэба далучаць да такіх спраў, як рэгістрацыя партыі…**

– Я думаю, нават калі б у нас проста коска не там стаяла, нам усё роўна адмовілі б. Нам сёмы раз адмовілі! Проста, відаць, няма адабрэння зверху на стварэнне палітычнай партыі, вось і ўсё.

ДАРЭЧЫ

## Хто яшчэ кіруе аргкамітэтамі па стварэнні палітычных партый?

Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Навасяд** з 2003 года спрабуе зарэгістраваць “Партыю Свабоды і Прагрэсу”. Было ўжо пяць зваротаў у Мінюст, але вынік – нулявы.

*“Сёння любая палітычная ініцыятыва чыноўнікамі разглядаецца як замах на іх прыватную ўласнасць,* – выказвае сваё меркаванне Уладзімір Навасяд. – *У нас за апошнія дзесяціґоддзі было адкрыта каля дзясятка новых банкаў, некаторыя ўжо нават абанкруціліся, крыптавалюта з’явілася – яе можна набыць. Але новых палітычных партый – ніводнай! Відаць, справа не толькі ў тых, хто робіць памылкі пры афармленні дакументаў для Мінюста, але і ў негатыўным стаўленні ўлад да падобных ініцыятыў.*

*Мы спрабавалі абскардзіць адмовы ў рэгістрацыі. Мне здаецца, апошнім разам нават суддзя быў здзіўлены. Спачатку чыноўнік з Мінюста сказаў, што быў адкліканы з адпачынку, каб праверыць нашы дакументы. На пытанне суддзі, дзе ж загад аб адкліканні, ён ужо адказаў: а я сам з адпачынку выйшаў. Суддзя здзівіўся: які, аказваецца, працаголік!*

*На наш погляд, адмовы ў рэгістрацыі засноўваліся на даволі фармальных, прыцягнутых за вушы фактах.*

*Ці будзем мы яшчэ рабіць спробу рэгістрацыі? Пакуль думаем. Правядзенне з’езда – гэта немалыя выдаткі: арэнда памяшкання, прыезд людзей з рэгіёнаў. Карацей, пакуль думаем…”*

Кандыдат філасофскіх навук **Анатоль Ляўковіч** узначальвае аргкамітэт па стварэнні рэспубліканскага грамадска-асветніцкага аб’яднання “Сацыял-дэмакраты за дыялог і кансалідацыю».

*“Я рабіў пару, скажам так, непублічных спроб рэгістрацыі партыі, але зразумеў, што гэта нікому не патрэбна,* – распавядае Ляўковіч. – *І не толькі дзяржаве. Таму я рашыў не біцца лбом у сценку. Існуе аргкамітэт па стварэнні партыі, мы працуем як можам. Ну і я па-ранейшаму мару аб стварэнні адзінай і ўплывовай сацыял-дэмакратычнай партыі…”*

Былы бізнесмен і дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Сяргей Скрабец** – кіраўнік аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі “Свабода”. Але рэгістраваць партыю ён не збіраецца.

*“Я лічу, што ва ўмовах дзеючага рэжыму гэта проста дарэмныя высілкі,* – гаворыць Сяргей Скрабец. – *Мы прынцыпова не ідзём на рэгістрацыю, каб не здаваць сваіх членаў. Інакш пачнецца ціск на людзей, некага з працы звольняць, некага ў турму кінуць. У любым выпадку да прыхільнікаў партыі будзе самая пільная ўвага…”*

Старшыня аргкамітэта па стварэнні Партыі працоўных **Аляксандр Бухвостаў** зрабіў толькі адну спробу легалізацыі. Больш у Мінюст з нагоды атрымання рэгістрацыі партыі Бухвостаў не хадзіў.

*“Наша партыя была афіцыйна зарэгістравана ў 1993 годзе, але ў 2004 годзе яе ліквідавалі,* – нагадвае Аляксандр Бухвостаў. – *У 2009 годзе мы правялі з’езд, стварылі аргкамітэт і падалі дакументы на новую рэгістрацыю, але не атрымалі яе. Мы падалі спісы членаў партыі, і амаль адразу многія пачалі скардзіцца на жорсткі перавслед. Таму пакуль працуем у статусе аргкамітэта. Шчыра кажучы, на з’езд няма грошай…”*

Старшыня “Беларускай жаночай лігі” **Ніна Стужынская** і грамадская актывістка, сябра БСДП “Грамада” **Валянціна Болбат** амаль два гады таму заявілі пра стварэнне партыі “Жаночая альтэрнатыва”. На раскрутку і падрыхтоўку неабходнага пакета дакументаў кіраўніцы давалі сабе год. Але пакуль справа да рэгістрацыі не дайшла. Чаму?

“*Пытанне складанае*, – гаворыць Валянціна Болбат. – *Для таго каб беззаганна правесці з’езд і падрыхтаваць неабходны пакет дакументаў, патрэбна вельмі вялікая папярэдняя праца. Па шчырасці, пакуль я не бачу сур’ёзнай актыўнасці і ад рэгіёнаў, ад каардынатараў. Карацей, мы працуем над гэтым пытаннем. Павольна, але працуем…”*

**Марына КОКТЫШ.**

РЭГІСТРАТУРА

# Больш за тысячу долараў у год за амбулаторна-паліклінічнае абслугоўванне ў «лечкамісіі»

*Такі прэйскурант выстаўлены для звычайных беларусаў, якія, як заўважаў Аляксандр Лукашэнка, могуць лячыцца ў клініцы для VIPаў не па прапісцы.*

На сайце Рэспубліканскага клінічнага медыцынскага цэнтра Кіраўніцтва спраў прэзідэнта з’явілася абвестка, што клініка з 1 чэрвеня спыняе кампанію па заключэнні дагавораў на амбулаторна-паліклінічнае і комплекснае медыцынскае абслугоўванне на гэты год. Зразумела, дагавораў платных.

“Народная Воля” вырашыла пацікавіцца: чаму? Няўжо так многа беларусаў жадаюць атрымліваць паліклінічную дапамогу ў “лечкамісіі”, што яе медыкі не спраўляюцца з патокам пацыентаў?

*– Звычайна наша дагаворная кампанія ідзе да 31 студзеня. У гэтым годзе мы яе працягнулі ў сувязі з пераездам цэнтра ў Ждановічы, і заканчваем цяпер таму, што скончыўся вызначаны тэрмін яе правядзення,* – патлумачылі ў клініцы.

У той жа час на сайце “лечкамісіі” ёсць такая інфармацыя: *“У сувязі з павышаным попытам на гэты від абслугоўвання і абмежаванымі магчымасцямі па аб’ёме аказання медыцынскай дапамогі Цэнтр пакідае за сабой права адмовы Заказчыку ў заключэнні дагавора на медыцынскае абслугоўванне”.*

Каштуе дагавор 2 тысячы 196 рублёў. *“Цана засталася на ўзроўні мінулага года, мы яе не падвышалі,* – удакладняюць ў “лечкамісіі”. – *Дадзеная сума дазваляе на працягу года атрымліваць дапамогу, якая вызначана праграмай у адпаведнасці з пратаколамі Міністэрства аховы здароўя. Усё, што звыш, ці нейкія аздараўленчыя мерапрыемствы – за дадатковую плату”.*

Але ж колькі беларусаў гатовы плаціць такія немалыя грошы, каб, па сутнасці, мець такую ж медыцынскую дапамогу, як і ў звычайнай паліклініцы, толькі з той розніцай, што тут не будзе чэргаў перад кабінетам тэрапеўта, 12 хвілін на ўрачэбны прыём, а таксама не прыйдзецца месяцамі чакаць элементарнага па сённяшнім часе ультрагукавога даследавання ці нават МРТ. Праграма лечкамісіі таксама прадугледжвае выезд на дом к пацыенту і ўчастковага тэрапеўта, і профільнага ўрача-спецыяліста, калі спатрэбіцца яго кансультацыя, праўда, вызначаць гэта будзе не сам пацыент, а яго ўчастковы доктар.

– *Жадаючых дастаткова*, – кажуць у Цэнтры. – *Звяртаюцца і звычайныя грамадзяне, і арганізацыі, якія клапоцяцца пра здароўе сваіх супрацоўнікаў, цэняць іх час.*

Варта адзначыць, што падобныя праграмы прапаноўваюць і прыватныя медыцынскія цэнтры краіны. Але каштуюць яны танней. Напрыклад, у медцэнтры «ЛОДЭ» праграма «Асабісты тэрапеўт» прыкладна з такім самым пералікам паслуг, як і ў лечкамісіі, абыдзецца кліенту ў 1,5 тысячы рублёў, альбо 750 долараў па курсе, у год, у “Экамедсэрвісе” – у 1260 рублёў, альбо каля 630 долараў. Праўда, у “Экамедсэрвісе” папярэджваюць, што мінус іх праграмы – доктар не выязджае на дом, а з плюсаў – кліент мае тэлефон свайго тэрапеўта, па якім можа звяртацца да яго ў любы час.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВПЕЧАТЛЕНИЯ

# Королевство, где полгода идут дожди, зато самый лучший в мире шоколад

Говорят, жители этой страны помнят лишь две строки своего гимна и неохотно говорят о патриотизме. А еще говорят, живут они скученно – плотность населения составляет 376,3 человека на квадратный километр. И платят очень высокие налоги – до 45% от доходов. Тем не менее не спешат уезжать за лучшей долей: разве что, выйдя на пенсию, покупают для отдыха домик в теплых краях.

Название этой страны – Королевство Бельгия.

### 800 костюмов для Писающего мальчика

Вроде не Париж и не Амстердам, но на старинной и вечно юной площади Гранд-Плас в Брюсселе звучали, казалось, все языки мира, а не только французский и нидерландский, на которых говорят жители Бельгии.

К знаменитому Маннекен Пис – Писающему мальчику – выстроилась очередь из желающих запечатлеть себя с ним рядом. Создана бронзовая фигура еще в 1619 году. Фонтаны европейских столиц в те времена пафосно изображали античных героев и благородных зверей, а придворный скульптор-маньерист Жером Дюкенуа-старший изваял 61-сантиметрового (!) мальчугана, который безо всякого стыда справляет малую нужду.

За почти четыре столетия никто из сограждан скульптора не усмотрел в этом оскорбления нравов. Хотя ради справедливости следует заметить, что нынче Маленького Жюльена – так называют Маннекен Пис франкоговорящие жители Бельгии – голышом-то и не увидишь. Бронзовому мальчугану сшили 800 костюмов. Пожалели брюссельцы бронзового бедолагу и приодели, чтобы не мерз. Хотя даже зимой в Бельгии держится плюсовая температура.

А чтобы Жюльен не грустил, в конце XX века бельгийцы ему в компанию отлили занятых тем же делом девочку и собаку. Очень натуралистичные фигуры. Девочку в темноте можно даже принять за живую. Скульптура огорожена решеткой, поскольку ее неоднократно пытались украсть. А вот бронзовая дворняга в натуральную величину задирает лапу вне всяких заборчиков. Правда, паломников-туристов к ним приходит меньше, чем к Жюльену, – может, не все ориентируются в двуязычных указателях улиц?

Однако столь несерьезные памятники совершенно не лишают Брюссель респектабельности. Штаб-квартиры Евросоюза и НАТО по единодушному выбору стран – членов этих объединений базируются в столице Бельгии.

### Шоколадное счастье: 60 граммов в день

Куда нужно ехать за лучшим шоколадом? Конечно, в Бельгию! Именно в этой стране создают самые вкусные сорта «витамина счастья». Именно здесь фармацевт Жан Нейхауз предложил сладкое лекарство из какао-бобов, а его наследник-тезка в 1912 году изобрел миндально-ореховую начинку – пралине. Не осталась в стороне и супруга изобретателя Луиза: придумала специальные коробки для упаковки лакомства.

Сегодня в Бельгии ежегодно производят 220 тысяч тонн шоколада, или 22 килограмма на душу населения, 60 граммов в день тающего во рту удовольствия.

К счастью для остальных европейцев, бельгийцы осиливают примерно треть производимого в стране шоколада. Остальное идет на экспорт, а также, несмотря на высокую цену, охотно раскупается туристами в фирменных магазинах легендарных марок «Нейхауз», «Годива», «Леонидас». В одном только Брюсселе насчитывается 500 шоколадных лавок и столько же шоколатье, работающих над новыми рецептами.

По популярности с шоколадом может соперничать пиво, которого здесь выпускают более 800 видов. Согласно статистике, на каждого жителя королевства приходится 150 литров пенного напитка в год.

Именно под пиво полагается вкушать национальное бельгийское блюдо под названием moules. Это даже не тарелка, а литровая (!) эмалированная кастрюлька, полная отваренных в разнообразных



соусах мидий! И пустая миска из нержавейки – чтобы складывать в нее во время трапезы отходы от морепродуктов.

Увидев впервые такую бадью (а некоторые рестораны ради привлечения публики предлагают 1,2 и даже 1,5 литра), я подумала: это нереально съесть одному человеку? Оказалось, под правильно выбранный сорт пива – легко! Все принесенные на соседние столы кастрюли опустошались до дна. Без гендерных, национальных и возрастных различий. Это при том, что к moules обычно заказывается еще одно национальное блюдо Бельгии – картофель фри.

Нет-нет, я не оговорилась: хрустящая фри из любимой нами, белорусами, бульбы придумали именно бельгийцы, а не французы или американцы. Существует даже легенда: в плохой для морского улова год один сообразительный повар решил поджарить наструганную соломкой картошку вместо обожаемой бельгийцами жареной мелкой рыбки. И не прогадал. Свою фри бельгийцы очень уважают! Как и национальную кухню в целом. Вокруг полно разнокалиберных кафе с вкусными местными блюдами.

### Фарфоровый ангел на газете

Вы можете представить, что на ступеньках Национального художественного музея сидят несколько десятков молодых людей, а перед зданием Оперного театра парни с гиканьем носятся за футбольным мячом?

Диковато? А в Бельгии это обыденная сцена. Потому что площади в Брюсселе просторные, футболисты никому не мешают. А юные туристы, облепившие ступеньки монументальных зданий, молоды и пока небогаты. И что плохого, если они присели перекусить хрустящей картошкой и знаменитыми бельгийскими вафлями? Даже прикорнуть на газоне могут – здесь это не грех.

К сожалению, моя молодость прошла за железным занавесом. Может, поэтому в каждой поездке я с особым вниманием присматриваюсь к своим европейским ровесникам. Почему не раздражаются, не ворчат, не ругают молодежь?

Я даже место для таких наблюдений выбрала – базарчики-развалы в центре города, куда в воскресенье утром пожилые “аборигены” привозят уйму пахнущих стариной вещей. Английские тарелочки, цветной французский хрусталь, бельгийские книги начала XX века, немецкие фотоаппараты… Между складных столов и разложенных прямо на земле раритетов можно бродить часами, брать в руки, торговаться. Бельгийцы любого возраста почти полиглоты. Помимо французского и нидерландского многие хорошо знают немецкий и английский языки.

Казалось бы, очень похоже на “Поле чудес” в наших Ждановичах. Вот только бельгийские старики и старушки не на своем горбу притаскивают в центр города (!) увесистый скарб, а на личных авто. И явно не ради спасения от бедности. Да, они продадут вам пару понравившихся блюдец из наполовину разбившегося сервиза или фарфорового ангела с потертой позолотой, но не потому, что пенсии не хватает на жизнь. Мне кажется, им нравится занимать привычное место, разворачивать завернутые в газеты графины и вазы и предаваться воспоминаниям вперемешку с неспешными беседами о жизни. Да, есть здесь и явные перекупщики старины – как правило, вполне работоспособного возраста и не европейского генотипа, но такова плата за европейскую толерантность.

И никто этих милых и опрятных старичков не гоняет. Даже хмурого продавца тяжелых, как кирпичи, старых книг, среди которых я обнаружила абсолютно не зачитанную автобиографию Гитлера. Я даже думаю, что и налогами за воскресную «оккупацию» городской площади их никто не облагает. Потому что хрустально-фарфоровая старость – это тоже символ бельгийской столицы.

### Залечь на дно в Брюгге

Поезда в Бельгии ходят как часы – только не механические, а электронные, поскольку точность секундная. Бельгия, напомню, считается родоначальницей железных дорог в Европе. Так что кому, как не ей, держать марку. А в выходные дни билеты стоят практически в два раза дешевле. Весьма приятный бонус для путешественников, будь то пенсионер, студент или семья с детьми.

Впрочем, и в будние дни поезда тоже заполнены. Тем более на таком суперпопулярном направлении, как в Брюгге, центр Западной Фландрии.

Насчитывающий чуть более 117 тысяч жителей и ведущий родословную с III века «город-мост» настолько хорош, что в 2000 году его исторический центр был объявлен ЮНЕСКО объектом Всемирного наследия.

Неспроста ирландский драматург Мартин Макдонах выбрал местом действия для своего брутального сюжета именно этот «городок в табакерке»: написал сценарий и снял здесь культовый фильм, который в нашем прокате называется «Залечь на дно в Брюгге». Город и до выхода картины в свет не жаловался на невнимание со стороны туристов, а после фильма слава про него дошла аж до Китая, откуда слетаются сюда толпы любопытных.

В славном Брюгге наш поезд опустел наполовину. Все устремились на Рыночную площадь (по-местному «маркт»), чтобы сфотографироваться у знаменитой колокольни Белфорт XIII века. В фильме с нее картинно падает вниз то ли киллер, то ли шпион по имени Кен в исполнении Брендана Глисона. Вид с колокольни, или беффруа, действительно потрясающий.

Колдовской лес, а не город! Он заманивает от одного здания к другому, интригуя то гордым шпилем башенки, то чудным фасадом. Подходишь к ним ближе, а на заднем плане – новая захватывающая панорама. Трудно поверить, что эти сказочные строения были возведены пять-шесть-семь веков назад и пережили религиозные смуты, смену государств и даже бомбардировку в Первую мировую войну.

Бельгийцы бережно охраняют и регулярно подновляют исторический фасад своих городов. Климат тут такой: вроде и не холодно, и не жарко, но воды вокруг хоть отбавляй. 150 дней в году в столице Бельгии идут дожди. От Брюсселя до Брюгге всего сто километров, что для грозовой тучи пустяк. Правда, нам повезло: пока мы там были, светило яркое солнце.

**Людмила СЕЛИЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

# На выбарах у Славеніі перамагла апазіцыйная антымігранцкая партыя

*Датэрміновыя выбары былі абвешчаны пасля адстаўкі прэм'ер-міністра краіны Міраслава Цэрара.*

Апазіцыйная Славенская дэмакратычная партыя **Янеза Яншы** (SDS) перамагла на парламенцкіх выбарах у Славеніі. Паводле дадзеных дзяржаўнай выбарчай камісіі, пасля падліку 99,89% бюлетэняў СДП атрымала каля 25% галасоў.

СДП дамінавала на апошніх этапах перадвыбарнай кампаніі, карыстаючыся рэзкай антымігранцкай рыторыкай і падтрымкай прэм'ер-міністра Венгрыі Віктара Орбана.

На другім месцы – палітычная сіла былога камедыйнага акцёра і палітыка **Мар'яна Шараца** з левацэнтрысцкага незалежнага спісу – атрымала каля 12,7% галасоў.




Тры іншыя партыі – сацыял-дэмакратаў, Сучасную цэнтрысцкую партыю былога прэм'ер-міністра Цэрара і левых – падтрымалі каля 9% тых, хто прагаласаваў.

Цяпер атрымліваецца, што ніводная з партый не атрымлівае большасці ў парламенце на 90 месцаў, таму верагодным наступным крокам з'яўляюцца перамовы ў фарміраванні кааліцыі. Аднак іншыя партыі выказалі здагадку, што яны не сфарміруюць альянс са Славенскай дэмакратычнай партыяй, што можа прывесці да правядзення новых выбараў.

Янез Яншы раней займаў пасаду прэм'ер-міністра ў 2004–2008 і 2012–2013 гадах. Ён з'яўляецца саюзнікам венгерскага прэм'ер-міністра Віктара Орбана. На пачатку 2013 году яго ўрад быў абвінавачаны ў карупцыі і атрымаў вотум недаверу ад парламента.

Датэрміновыя выбары былі абвешчаны ў сакавіку, калі прэм'ер-міністр Міраслаў Цэрар падаў у адстаўку ў сувязі з рашэннем Вярхоўнага суда, які адмяніў вынікі рэферэндуму, на якім было ўхвалена будаўніцтва буйной чыгункі.

Права голасу на выбарах мелі 1,7 мільёна славенскіх выбаршчыкаў.

ВЗГЛЯД ИЗ КИЕВА

# Спецоперация или неудачный спектакль?

*На прошлой неделе общественность испытала прямо девятый вал бурных чувств с выходом неимоверного количества эмоций. Это произошло после известия об убийстве и последующего воскрешения известного российского журналиста Аркадия Бабченко, покинувшего после многочисленных угроз Российскую Федерацию и проживающего последний год в Киеве.*

Кто-то назвал эти события фейковыми новостями, но на самом деле это блестящая спецоперация украинских спецслужб, практически прошедшая без сучка, без задоринки. Можно, конечно, придраться к отдельным нестыковкам в ходе ее реализации, но в целом они никак не повлияли на общий результат. Главная цель была достигнута – организаторы и заказчики поверили, что убийство на самом деле произошло, а следствие получило дополнительную информацию и улики.

В связи с этим не удивляет реакция Следственного комитета Российской Федерации. Несмотря на поздний вечер и на то, что информация о покушении на Аркадия Бабченко практически еще не разошлась даже в украинских СМИ, там, в РФ, уже через каких-то двадцать минут после объявления о событии заявили, что возбуждено уголовное дело по факту убийства российского гражданина. Возбуждение уголовного дела, скажем так, процесс бюрократический. Требуется определенная процедура подтверждения, что преступление произошло. И уж точно это не решается в столь короткий промежуток времени после заявлений в «Фейсбуке». Сидели и ждали?

В ходе имитации убийства украинские власти тоже допустили одну существенную ошибку. В круг осведомленных о спецоперации высокопоставленных лиц то ли в целях недопущения утечки информации, то ли в силу каких-то внутренних разногласий не включили премьер-министра и главу Министерства иностранных дел. А те, невзирая на молчание президента, решили самостоятельно сделать громкие заявления. Что в дальнейшем вызвало своеобразное недовольство западных официальных лиц. И пришлось потом отдельно собирать послов и информировать о проведенной операции, вызвавшей такой огромный резонанс во всем мире.

«Воскрешение» популярного журналиста произошло в здании СБУ на следующий день после имитации покушения. На брифинге практически все было хорошо, пока слово не взял кум президента, генеральный прокурор **Юрий Луценко**. Он под объективы видеокамер многочисленных СМИ начал сводить личные счеты с оппонентами, перечисляя, кто и как из оппозиции критиковал власть из-за очередного громкого убийства. Сказывается отсутствие юридического образования. В результате вместо детального разбора преступления и безупречных юридических доказательств брифинг превратился в банальную провинциальную чиновничью промоакцию.

Пресс-секретарь генерального прокурора пошла еще дальше. Объявила в «Фейсбуке» «охоту на ведьм». Начала собирать список лиц и их высказываний, которые критиковали власть после свершившегося, как всем казалось, резонансного преступления. В этот список попали кандидаты в президенты, народные депутаты, журналисты, активисты. Даже **Мирослава Гонгадзе** за свои слова «***Безнаказанность порождает преступление***» попала «на карандаш» Генеральной прокуратуры. Кстати, дело об убийстве ее мужа до сих пор в прокуратуре не завершено.

Ни для кого не секрет, что нынешние государственные институты и их руководители имеют в украинском обществе крайне низкую популярность. Соответственно столь дешевый пиар с примитивными обвинениями чиновников, тезисы которых в дальнейшем подхватили провластные журналисты, блогеры и политтехнологи, вызвал огромное недоверие к отлично спланированной и проведенной операции украинских спецслужб.

А после всего этого, когда заговорил главный подозреваемый в организации преступления **Борис Герман**, многие больше поверили его вообще ничем не подкрепленным словам, чем спецслужбе, которая задокументировала факты, хотя и предоставила их в строго ограниченном минимуме.

Защита подозреваемого выбрала очень хорошую тактику. Клиент вроде как ни в чем не виноват, он сам «патриот» и «волонтер». Был задействован в спецоперации, правда, некоего другого подразделения украинских спецслужб, находящегося якобы в состоянии внутриведомственного конфликта с теми, кто задержал подозреваемого. Прямо по роману Юлиана Семенова «Семнадцать мгновений весны»: конфликт в Главном управлении имперской безопасности между IV управлением Мюллера и VI управлением Шелленберга.

Одним словом, подозреваемый – это маленький человечек, выполнявший волю больших людей из спецслужб, которые его попросту подставили. Правда, фактурного подтверждения защита так и не предоставила, но в информационном плане это заявление сыграло существенную роль. Его целенаправленно подхватили и распространили так, что многие подумали, что это резонансное событие действительно мистификация спецслужб, осуществленная для поднятия рейтинга непопулярных политиков в ходе неформально начавшейся избирательной кампании.

Суровое обвинение. И сейчас этот тренд тяжело переломить. В рамках этой операции были получены данные о том, что заказ на устранение Аркадия Бабченко не единичен. Существует целый список людей, подлежащих ликвидации, состоящий из 47 пунктов. В нем известные журналисты, блогеры, активисты. Исходя из анализа фамилий из списка, которые стали известны, можно констатировать, что в список попали не столько личные враги Путина, а просто достаточно популярные медийные персонажи.

Цель их убийства – во время неформально идущей президентской и парламентской избирательных кампаний ввергнуть Украину в состояние хаоса. Вызвать в обществе страх, панику, показать несостоятельность государственных структур, посеять элемент раздора. Мы уже сейчас, после предотвращенного преступления, наблюдаем нагнетание состояния раскола в обществе, которое, к сожалению, в дальнейшем будет только нарастать. Преступление удалось предотвратить, но одна из предполагаемых задач фактически достигнута.

Журналистов, фигурировавших в расстрельном списке, пригласили в СБУ. Взяв предварительно подписку о неразглашении, их ознакомили с материалами следствия. Ни один из них в дальнейшем не заявил, что это все полная ерунда и мистификация. Все достаточно серьезно отнеслись к представленным доказательствам.

В ответ на их заявления о том, что собранная доказательная база достаточно убедительна, тут же послышались обвинения в том, что их якобы купили, запугали, что ими манипулируют, их шантажируют и взяли чуть ли не под колпак спецслужб. Но я не сказал бы, что там собрались люди, легко попадающие под влияние и готовые так быстро испугаться нынешней власти. Среди них есть специалисты, которые в состоянии определить уровень собранных улик и всю серьезность существующих угроз.

Сейчас «**Список 47**» осознанно или неосознанно превращают в мем, тем самым продолжая нивелировать успех спецслужб и ставя под сомнение угрозу жизни внесенных туда людей. На самом деле, возможно, было бы смешно, если бы не были убиты **Павел Шеремет**, **Амина Окуева**, **Максим Шаповал**, **Александр Хараберюш**, **Тимур Махаури**, **Денис Вороненков**.

Главная ошибка власти – это то, что мероприятие, связанное с национальной безопасностью, политтехнологи от власти решили превратить в пиар. В конечном итоге победа может превратиться в сокрушительное поражение.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

В ТЕМУ

## Кто в списке?

Полный список лиц, на которых, по сведениям украинских спецслужб, готовилось покушение, не опубликован. Но некоторые имена и фамилии уже известны. Среди них – известные журналисты, радио- и телеведущие, жена кандидата в президенты Анатолия Гриценко Юлия Мостовая – редактор популярного издания «Зеркало недели». Также в списке Илья Богданов – ФСБэшник, сбежавший из России и воевавший на стороне Украины.

На данный момент называются следующие персоны из «списка 47»:

Аркадий Бабченко,
Матвей Ганапольский,
Татьяна Даниленко,
Айдер Муждабаев,
Сергей Иванов,
Павел Казарин,
Евгений Киселев,
Осман Пашаев,
Юрий Макаров,
Илья Богданов,
Катерина Сегацкова,
Сергей Гришин,
Богдан Буткевич,
Отар Довженко,
Соня Кошкина,
Виталий Портников,
Тодор Пановский,
Юлия Мостовая.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ




# Крычаўская суднаверф

Ці было некалі на беларускіх землях сапраўднае мора? Насуперак доказам старажытнагрэчаскага гісторыка Герадота, адны мяркуюць, што Беларусі не пашэнціла стаць марской дзяржавай. Іншыя ж лічаць, што не толькі мора Герадота плёскалася на палескіх прасторах, а нават Чорнае мора сягала сюды сваімі берагамі.

Так ці інакш, а беларусы і сапраўды маюць непасрэднае дачыненне да марскіх традыцый. І не толькі таму, што многія нашы продкі былі адмысловымі мараходамі. З іхняга асяроддзя часта вылучаліся кемныя і таленавітыя суднабудаўнікі, праектанты, вынаходнікі, аўтары нязвыклых марскіх ідэй.

Ды з усіх марскіх старонак беларускай гісторыі найбольш значнай з'яўляецца крычаўская. Дагэтуль здзіўляе факт існавання ў Крычаве суднаверфі, якая спрыяла запачаткаванню расійскага Чарнаморскага ваеннага флоту. Спрычыніўся да гэтай справы вядомы расійскі дзяржаўны і ваенны дзеяч граф Рыгор Пацёмкін. Пасля ўдзелу ў палацавым пераcontainsвароце, у выніку якога на царскі трон узышла Кацярына ІІ, Пацёмкін стаў фаварытам імператрыцы, атрымаў у валоданне шмат беларускіх зямель. З 1776 года яму належала і Крычаўская воласць.

Як чалавек кемны і з вялікімі грашыма, граф імкнуўся з выгадай скарыстаць багацці. Вось і заманулася яму ператварыць заштатны Крычаў у прамысловы і гандлёвы цэнтр заходнееўрапейскага кшталту. Ён запрасіў у графства вядомага англійскага філосафа, сацыёлага і юрыста І. Бентама, які дапамог у пабудове Крычаўскай суднаверфі.

Сам жа Пацёмкін у гэты час займаўся прамысловым асваеннем Паўночнага Прычарнамор'я. Ён кіраваў будаўніцтвам ваеннага і гандлёвага флатоў на Чорным моры, узвядзеннем новых рускіх гарадоў. Вось тады граф звярнуў пільную ўвагу на Крычаў. Незадоўга да гэтага звыклы рытм жыцця быў парушаны тут неверагодным здарэннем: у 1743–1744 гадах адбылося антыфеадальнае паўстанне сялян, на чале якога стаяў Васіль Вашчыла. Аднак гаспадары Крычаўскага староства Радзівілы задушылі ваяўнічы дух бунтаўшчыкоў. Разважны розум прывёў Пацёмкіна да высновы, што сяляне, звыш галавы загружаныя працай, не будуць мець часу на вольналюбівыя памкненні.

Калі ў 1778 годзе пачыналася будаўніцтва Херсонскага адміралцейства, там працавалі каля тысячы беларусаў з уладанняў графа Пацёмкіна. А ў 1785 годзе паводле ягонага загаду ў Крычаве была збудавана суднаверф, якая мела заняць працай практычна ўсіх сялян воласці. Яна прызначалася для забеспячэння ваеннага флоту на Чорным моры і будаўніцтва рачных суднаў. Было створана нават Крычаўскае аддзяленне Херсонскага адміралцейства. Тут узвялі высокую стромую вежу з варотамі, са шпілем і абавязковым караблікам на ім. Такой адметнасці не меў ніякі іншы беларускі горад.

Крычаўская суднаверф знаходзілася на рацэ Сож, якая праз Днепр была звязана з Херсонам і Краменчугом. Даследчык крычаўскай даўніны Андрэй Меер зазначаў, што «Крычаў тым хутчэй здабудзе сабе славу, калі на такой рацэ мець будзе ў сябе верф, якая не толькі Чарнаморскі флот забяспечваць будзе дваццацігарматнымі і іншымі ваеннымі караблямі, але і вырабляць у сябе розныя карабельныя прыпасы, прадаваць іх чужым, а жадаючым скарыстацца з чарнаморскага гандлю гандлёвыя караблі за грошы дастаўляць здолее». Практычна так і сталася. Беларускія вытворцы пастаўлялі для Чарнаморскага ваеннага флоту парусіну і канаты, мачтавы і будаўнічы лес. Неўзабаве Крычаўскае графства стала галоўным экспарцёрам драўніны для патрэб флоту. Нават жыхары Рагачова і Чэрыкава нарыхтоўвалі мачтавы лес, які на плытах і барках адпраўляўся ў далёкае чарнаморскае падарожжа.



**Малюнак М. Іванова «Выгляд Крычава в XVIII веку».**

Крычаўскія майстры дбайна шчыравалі на парусной і канатнай мануфактурах. Сяляне-ткачы выраблялі тканіну для карабельных ветразяў, а майстры канатнай мануфактуры прадукавалі 13 відаў канатаў. Крычаўскае графства неўзабаве заняло першае месца па забеспячэнні Херсонскага адміралцейства канатамі, парусінай і такелажам. Аднак самым значным прадпрыемствам лічылася суднаверф. На беразе Сожа быў збудаваны док, меліся вялікія вытворчыя памяшканні, чарцёжныя і прамысловыя майстэрні.

Выключная майстравітасць і ўвішнасць тутэйшых працаўнікоў спрыялі таму, што Пацёмкін не баяўся даручыць ім самыя складаныя заданні. Літаральна праз год пасля адкрыцця верфі крычаўскія майстры збудавалі першую рачную флатылію з 13 яхтаў і 12 ластавых суднаў. Прызначалася яна для самой Кацярыны ІІ, якая праз год павінна была падарожнічаць у Наваросію. Судны маглі плысці як пад ветразямі, так і на вёслах.

У 1787 годзе імператрыца наведала Беларусь. Па дарозе ў Крым яна мела гонар «ашчаслівіць» сваёй прысутнасцю Мсціслаў, Крычаў, Прапойск, Чачэрск, Гомель. У Крычаве высокая асоба з'явілася 19 студзеня і «изволила» абедаць і начаваць у палацы свайго даўняга фаварыта графа Пацёмкіна.

У тым жа годзе намаганнямі Пацёмкіна закончылася будаўніцтва ваеннага Чарнаморскага флоту. Быў ён драўляны, з беларускага лесу таксама, з крычаўскімі мачтамі, канатамі, ветразямі. Камандаваць ім даверылі вядомаму рускаму флатаводцу, будучаму адміралу Ф.Ушакову. Увайшла туды і флатылія, збудаваная для Кацярыны. Крычаўская суднаверф спыніла сваё існаванне на пачатку XIX стагоддзя.

НУ И НУ!

# ...А Пенка пересекла границу незаконно

Корова Пенка, которая должна растелиться через три месяца, паслась в районе болгарского села Копиловцы. В один из дней она добрела до сербской границы и оказалась на территории страны, не входящей в ЕС.

Корову позже вернули ее владельцу, а сербский ветеринар подтвердил: состояние здоровья животного отличное.

Однако болгарские чиновники неумолимы и настаивают, что корову нужно усыпить из-за строгих правил ЕС. Согласно им, коровы должны пересекать границу ЕС с документами, подтверждающими, что они здоровы, Пенка же пересекла границу незаконно.

Владелец коровы возмущен таким решением. Он говорит,



что пограничники должны были остановить животное, поскольку не заметить, как оно переходит границу, было трудно.

Судьбой Пенки прониклись и в Европарламенте. Евродепутат Джон Флек написал премьеру Болгарии Бойко Борисову и президенту ЕП Антонио Таяни, чтобы привлечь их внимание к ситуации.

«Вероятно, что это тот случай, когда прагматизм должен превалировать над строгим прочтением правил», – считает он.

Активисты также создали петицию на сайте Change.org и требуют спасти Пенку. На момент написания материала петицию подписали почти 8700 человек.

The Independent.

ЧУЛІ?

## Выставіў ультыматум

**Прэм'ер-міністр Украіны Уладзімір Гройсман заяўляе, што сыдзе з пасады кіраўніка ўрада, калі ў краіне не створаць антыкарупцыйны суд.**

«Я, як прэм'ер-міністр Украіны, прыняў для сябе рашэнне: калі гэты суд, справядлівы, незалежны не будзе створаны, я складу з сябе паўнамоцтвы прэм'ер-міністра Украіны і падам у адстаўку», – сказаў Гройсман падчас сумеснага брыфінгу са старшынёй Вярхоўнай Рады Украіны Андрэем Парубіем.

Паводле яго слоў, сёння ён будзе працаваць з дэпутатамі фракцый, каб 7 чэрвеня яны падтрымалі ў другім чытанні праект закона аб Вышэйшым антыкарупцыйным судзе.

Парубій, са свайго боку, выказаў упэўненасць, што галасаванне адбудзецца.

1 сакавіка Вярхоўная Рада Украіны падтрымала прэзідэнцкі законапраект №7440 аб антыкарупцыйным судзе ў першым чытанні.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–44.)*

## Шукаць дапамогу пайшлі ў Вузду

У першы год акупацыі ў Магільным жыло нямала даволі адукаванай моладзі мужчынскага полу, бо дамоў вярнуліся многія з тых, хто вучыўся ў Мінску і іншых гарадах. Прычым тая моладзь у абсалютнай сваёй бальшыні вызначалася высокай ступенню адданасці сацыялістычным ідэалам. Пра гэта ў свой час таксама вельмі клапаціліся як кіраўніцтва мясцовай агульнаадукацыйнай школы, так і пагранічная камендатура. На такую моладзь не маглі не кінуць вока камандзіры і палітработнікі першых партызанскіх атрадаў у нашай мясцовасці. Заставалася толькі выпрацаваць правільную метаду, як практычна далучыць маладых магілян да партызанскага руху, каб не паставіць пад удар іх сем'і. Такое на пэўны час удалося.

Жорсткія ўмовы вайны і акупацыі, як ужо адзначалася, аказаліся не ў стане пазбавіць моладзь так уласцівай ёй весялосці. У многіх вымярэннях жыццё гэтай узроставай катэгорыі праходзіла ў звычайных стандартах мірнага часу. Самым любімым і масавым заняткам заставаліся танцы. Ніводнае мерапрыемства не прыцягвала да сябе столькі моладзі, як яны. Вось гэты фактар вырашылі выкарыстаць партызаны, папярэдне азнаёміўшы са сваім планам самых надзейных хлопцаў. Сутнасць яго заключалася ў тым, што ў час танцаў у гушчу моладзі ўрываецца група ўзброеных людзей без усялякіх знакаў адрознення, камандуе разысціся, а некаторым звязвае рукі і адводзіць у невядомым напрамку. Каб такім шляхам далучыцца да партызанаў, у той вечар на танцы прыйшлі і хлопцы, якія звычайна не цікавіліся імі. На танцы (ладзіліся ў канцы лета 1942 года) сабралася столькі моладзі, што нельга было ёй змясціцца ў хаце. Тую забаву давялося ладзіць пад адкрытым небам. Як на шчасце, хата знаходзілася паблізу цвінтара, дзе на цвёрдым грунце лёгка кружыліся пары. Такая сітуацыя аказалася вельмі даспадобы партызанам, і яны бліскуча правялі задуманую аперацыю.

Назаўтра ўсё Магільнае толькі і гаварыла, што пра ўчыненае невядомымі асобамі паланенне нашых хлопцаў. Людзі заходзілі ў хаты іх бацькоў, каб выказаць спачуванне з такога вялікага гора. Былі і такія бацькі, як, да прыкладу, самы паважаны ў мястэчку казачнік Паўлік Ляпіла (*пазней гэтае прозвішча сталі пісаць так: Ліпіла*), што не маглі ніяк стрымаць сябе ад вялікага гора і пускалі слязу з вачэй. Па яго ж ініцыятыве быў арганізаваны паход у Вузду, каб папрасіць уладу дапамагчы адшукаць "выкрадзеных" хлопцаў. Там паабяцалі. Як бачым, нумар у магілян з народнай дыпламатыяй бліскуча ўдаўся: змаглі пераканаць уладу, што гора ў іх не надуманае, а сапраўднае.

Літаральна праз пару дзён неяк нечакана для магілян усё супакоілася, ніхто асабліва не бедаваў, што застаўся без сына. А месяцы праз два ўвогуле забыліся пра тое здарэнне падчас танцаў. Людзі здагадваліся, што тут адбылося нешта зусім не тое. І яны не памыліліся. Пагаворвалі, што нават таго-сяго з "выкрадзеных" бачылі позна ўвечары ў сваіх бацькоў. Так яно і сапраўды было. Калі ж у нашай мясцовасці партызанскі рух набыў больш-менш масавы характар, "ахвяры" тых танцаў усе да аднаго пастараліся наведаць родную хату, каб засведчыць бацькам і сваім землякам, што яны жывыя і здаровыя, вядуць узброеную барацьбу з акупантамі.

## Першая «сур'ёзная баявая» акцыя партызанаў

З цягам часу магілян перастала здзіўляць з'яўленне ў іх мястэчку невялікіх груп партызанаў. Звыкліся з сістэматычнымі разбурэннямі імі малачарні, ператрусамі ў памяшканні мясцовай воласці. Праўда, праз пэўны час аднаўлялася дзейнасць і адной, і другой. Затое ніхто не спрабаваў аднавіць спаленых партызанамі дзесьці ў канцы лета 1942 года трох магільнянскіх мастоў: два з іх цераз раку Нёман, трэці – цераз яго прыток. Гэтая партызанская акцыя, праведзеная ўначы, нарабіла шмат шуму. Амаль усё Магільнае тут жа высыпала на вуліцы, і кожны стараўся расказаць, як ён даведаўся, як ацэньвае той "гераічны" ўчынак партызанаў. Пастараўся ўзяць слова і Варвон Храноўскі. Але да таго, як выкласці яго аповед, хацеў бы звярнуць увагу чытачоў на такую акалічнасць. У нас да вайны не было асабліва модным занавешваць напач вокны. А вось як пачалася вайна, прыйшлі немцы, на вуліцах сталі з'яўляцца незнаёмыя асобы, амаль кожная сям'я чымсьці старалася занавесіць вокны сваёй хаты, асабліва тыя, ад якіх недалёка стаялі ложкі. У некаторых сем'ях вокны звычайна занавешвалі жаночымі спадніцамі, што адметным чынам і паўплывала на аповед Варвона.

– Прачнуўся ад нейкага трэску ў вушах. Спачатку падумалася, што такое прысніў. Стаў прыслухоўвацца. Трашчыць і ўсё мацней і мацней. Ну як тут улежаць? Устаў з ложка, падняў спадніцу. А там ой-ёй як чырвана!

Усе, хто чуў такое, кінуліся ў рогат, а Варвон ніяк не можа зразумець, чым гэта ён так рассмяшыў людзей. Пазней дайшло да яго. Міне шмат гадоў, а яму будуць усё згадваць той выпадак. Варвон толькі смяяўся і ніколі не крыўдаваў.

Тая партызанская акцыя, нягледзячы на яе "гераічны" характар, не апраўдвалася магілянамі, бо яны аказаліся адрэзанымі ад усяго таго, што звязвала іх з правабярэжжам Нёмана. У нас, да прыкладу, былі родныя ў Літве (жылі маміны тата і мама, сястра з трыма дзецьмі), у Замосці (два родныя маміны дзядзькі з сем'ямі). Да пераўтварэння Магільнага ў партызанскую зону людзі даволі часта па сваіх асабістых патрэбах хадзілі, ездзілі ў Вузду. Цяпер, каб пераправіцца на чайцы на правы бераг Нёмана, трэба было заплаціць перавозчыку па адным яйку за чалавека. Найбольш жа нязручнасцяў ад спалення мастоў мелі жыхары правабярэжных прынёманскіх вёсак Літва і Стальбоўшчына, бо іх лугі знаходзіліся па левым беразе Нёмана прыкладна за чатыры-пяць кіламетраў на паўднёвы захад ад Магільнага. Тыя лугі выдзелілі ім яшчэ за царскай уладай, бо паблізу Літвы і Стальбоўшчыны не было ў дастатковай колькасці сенажацяў. Ад такой практыкі не адмовіліся ні пры саветах, ні ў час акупацыі. З-за спаленых мастоў вазы з сенам даводзілася ўброд перапраўляць на правы бераг Нёмана. Тады ён быў паўнаводны. Гэта сёння ў многіх месцах яго можа перайсці свіння, не падмачыўшы жывата. А тады нават у спякотнае лета ў месцах броду нельга было пераправіць на правы бераг Нёмана вазы з сенам, не падмачыўшы яго ніжнія пласты. З гэтай бядой людзі змірыліся толькі тады, калі зразумелі, што масты спалілі толькі дзеля таго, каб ад Вузды адрэзаць Магільнае, якое меркавалася "прыпісаць" да партызанскай зоны. Калі да 17 верасня 1939 года яно з'яўлялася памежжам дзвюх дзяржаў – СССР і Польшчы, дык цяпер выступала ў такой іпастасі паміж партызанскай зонай і падлеглай акупацыйнай уладзе тэрыторыяй. Пасля спалення мастоў у Магільным перасталі дзейнічаць усялякія акупацыйныя ўстановы, яго насельніцтва цалкам выпала са сферы дзейнасці Вуздзенскай цывільнай адміністрацыі. Акупанты маглі дамагацца тут сваіх мэтаў, толькі абапіраючыся на ваенную сілу. Усё гэта дазваляе гаварыць, што тыповы акупацыйны рэжым для Магільнага скончыўся ўвосень 1942 года. Спачатку наступіла кароткатэрміновае двухуладдзе, а затым загаспадарылі партызаны. Яны пакідалі мястэчка без бою толькі тады, калі ў яго ўрываліся нямецкія карніцкія атрады.

## Я застаюся без таты

Хваробы ніяк не адступалі ад таты, хаця ў мясцовай бальніцы працаваў кваліфікаваны ўрач адной з мінскіх клінік Аркадзь Суслаў. Вось толькі бяда, што ў яго распараджэнні не мелася патрэбных медыкаментаў, інструментаў, абсталявання. Акрамя лячэння хранічнага пароку сэрца, тату часта рабілі ў бальнічных умовах прамыўку страўніка. Доктару за лячэнне трэба было плаціць натурай. Грыбы для гэтай мэты не падыходзілі, таму я колькі дзён адвёў на збор каласкоў, дзе нядаўна зжалі пшаніцу. Тут ужо да мяне пабывала нямала людзей. І ўсё ж з сабраных каласкоў выцерушылі пшанічнага зерня на ёмістае вядро. Лекар застаўся задаволены і абяцаў рабіць усё залежнае ад яго, каб паправіць здароўе таты. Не атрымалася. Позняй восенню 1942 года ў начны час закончылася яго нялёгкае зямное жыццё. А быў яму толькі 41 год.

У апошнія дні жыцця таты з канём у полі працаваў у асноўным толькі я, бо мама не адыходзіла ад хворага. Стамляўся я страшэнна. Так было і ў апошні дзень жыцця таты. Мяне ледзь разбудзілі, каб пайшоў развітацца з татам. У спальні мама разам з фельчарам Васількам Дубіцкім увіхаліся каля безнадзейна хворага, давалі піць, дапамагалі аднавіць дыханне. Наўзрыд галасілі Ліда і Ада, плакаў, прыхіліўшыся да татавага ложка, сямігадовы Геня. Да канца не прачнуўшыся ад вялікай стомы на працы, я, трохі пастаяўшы, як след не ўсвядоміўшы, што адбываецца, спрасонку пакрочыў да свайго ложка і адразу ж заснуў. Прачнуўся ўжо тады, калі ў хаце поўным ходам ішла падрыхтоўка нябожчыка для развітання з зямным светам. І раней, і сёння не магу дараваць сабе, што не знайшоў тады ў сабе сілы, каб да канца вызваліцца з-пад улады сну і быць разам з татам у апошнюю хвіліну, апошнюю секунду такога дарагога для мяне яго зямнога жыцця.

Хавалі тату вельмі сціпла і ў асноўным толькі родныя. Такі тады быў час. Дзеці, за выключэннем толькі чатырохгадовага Толі, панаплакаліся нямала. Стойка трымалася мама. Паводле пачутага ад яе пазней, моцна не рыдала яна толькі дзеля таго, каб не навесці вялікага жаху на дзяцей. Затое волю давала слязам тады, калі заставалася сам-насам і рыданні не мог пачуць ніхто з дзяцей. А плакаць, бедаваць, пахаваўшы гаспадара і застаўшыся ў вайну з пяцярымі дзецьмі, было больш чым дастаткова падстаў.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ЗАКУЛИСЬЕ

# Куда пропали музыканты?

*Позавчера разочарованная публика едва не устроила скандал около Национального академического Большого театра оперы и балета.*

Дело в том, что Большой анонсировал: с 6 мая по 17 июня *каждое* воскресенье на площадке перед театром полчаса будет играть симфонический оркестр. «*Если вдруг погодные условия будут не совсем благоприятными, от концерта вам все равно не уйти: оркестр будет ждать любимых зрителей (конечно, тех, у кого есть билет на вечерний спектакль) в холле на первом этаже*», – говорили в театре.

Новость о концертах на свежем воздухе до сих пор висит на сайте театра. И никаких оговорок о том, что в такой-то день концерт не состоится, там нет.

Поэтому, когда в минувшее воскресенье музыканты не пришли, публика переполошилась. А народу собралось немало! Людей на концерты под открытым небом раз от раза приходило больше, чем на уличные акции, которые устраивают некоторые оппозиционные политики.

На дверях театра объявлений о том, что концерт отменили, не было. Кассир и охранники на служебном входе лишь удивленно пожимали плечами: мы не в курсе, что к чему.

«*Неужели нельзя было выйти и предупредить?*» – возмущались люди, дергая закрытые двери театра.

Кстати, несмотря на овации публики, сами музыканты были не очень довольны концертами на свежем воздухе. В один из дней порывистый ветер то и дело уносил их нотные листы, а в другой солнце палило так, что один из скрипачей даже надел панамку.

«*Мне вообще за эти концерты никто не доплачивает, так что я напрягаться здесь не собираюсь!* – недовольно высказывался другой музыкант. – *А зарплата артиста оркестра около 250 долларов. И это в ведущем театре страны!*»



Хотя публика от выступлений оркестра и дирижера **Ивана Костяхина** была просто в восторге!

– *Откровенно говоря, эти концерты были задуманы как некоторая дополнительная фишечка-замануха, чтобы люди пришли в театр*, – приоткрыл "Народной Воле" театральные секреты дирижер Большого Иван Костяхин. – *Сейчас по зрительскому интересу уже чувствуется, что этот проект начинает перерастать наспех слепленные посиделки у крыльца театра. И надо просто думать, что с этим форматом дальше делать, как развивать. А что касается музыкантов, то они всегда немного циники. К тому же люди очень по-разному относятся и к себе, и к театру, и к концу сезона. Кто-то уже очень устал, у кого-то проблемы… Но музыкант за кулисами поворчит-поворчит, а потом выйдет и будет нормально работать.*

**ОФИЦИАЛЬНО**

«*Концерты на площадке перед театром проходят лишь в те дни, когда вечером есть спектакль. 4 июня в афише театра спектакля не было, поэтому и оркестра не было*», – пояснили «Народной Воле» в Большом театре.

**Марина КОКТЫШ.**

***На фото: от дирижера Ивана Костяхина публика просто в восторге!***

ВЕРНІСАЖ



# «Людзі Літвы»

*Так называецца выстава вядомага фатографа Антанаса Суткуса, якая 6 чэрвеня адкрыецца ў мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага.*

79-гадовы Антанас Суткус асабіста прадставіць у Мінску больш за сотню архіўных срэбных адбіткаў, якія ствараліся больш за 50 гадоў і аб'яднаны ў фатаграфічны цыкл "Людзі Літвы".

"*Гэта бясконцая серыя фотаздымкаў, у якіх знікаюць межы паміж інфармацыйнай і мастацкай фатаграфіяй, бо іх аўтара цікавіць не чыстая дакументалістыка, а глыбіня душы чалавека з яго радасцямі, адзінотай, пакутамі і спачуваннем*, – распавядаюць у амбасадзе. – *На фотаздымках Суткуса ўвекапомнены мастакі, вяскоўцы і гараджане, дзеці, палітыкі, вязні Каўнаскага гета, што перажылі Халакост, і іншыя*".

"*Людзі такія, якія ёсць, але калі я іх фатаграфую – гэта "мае людзі", такія, якімі я іх бачу*", – так гаворыць пра свае фотаздымкі Суткус.

У мінулым годзе аўтару ўручана Прэмія Эрыха Саламона, якая аказала вялікі ўплыў на сучасную прэсфатаграфію і ўручалася вядомым сусветным фатографам. Французы ўдзячны А.Суткусу за незвычайную калекцыю фотаздымкаў падарожжа пісьменніка Ж.-П.Сартра па дзюнах Ніды, якая паўплывала і на французскую скульптуру – па адным з фотаздымкаў Ж.-П.Сартра, зробленых А.Суткусам, быў створаны помнік, які цяпер стаіць у Парыжы побач з Нацыянальнай бібліятэкай.

Выстава «Людзі Літвы» будзе экспанавацца з 6 чэрвеня па 8 ліпеня.

Спонсар выставы – Савет культуры Літвы.



**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ПАМЯЦЬ

# Мемарыял Віктара Купрэйчыка

Прамінуў год без беларускага праслаўленага міжнароднага гросмайстра Віктара Купрэйчыка, бескампраміснага ў барацьбе нават з самымі высокатытулаванымі шахматыстамі планеты, віртуознага майстра атакі, які тварыў паэзію шахмат, стыхіі, што сталася ягоным жыццём. Паколькі ён любіў яшчэ літаратуру і музыку, то міжволі хочацца параўнаць яго з двума маладзейшымі геніямі – Максімам Багдановічам і Вольфгангам Амадэем Моцартам. І шчодрым дарам ад Бога, і падарваным здароўем, што замінала плённай маштабнай дзейнасці і, урэшце, скараціла жыццё.

Нам не стае і заўсёды будзе не ставаць Віктара Давыдавіча, яго абаяльнай усмешкі, прынцыповай пазіцыі ў адказных жыццёвых пытаннях і прыгожай камбінацыйнай гульні, што адпавядае духу высокай творчасці.

Наша краіна (пакуль што ўвасобленая ў грамадскім аб'яднанні Беларускай федэрацыі шахмат) ушаноўвае знакавую постаць – знакамітага Купрэйчыка. Кніга пра яго, помнік – гэта пазней. А вось Нацыянальная акадэмія шахмат ужо займела імя інтэлігентнага гросмайстра.

На чарзе – Мемарыял Віктара Купрэйчыка. Ён пачнецца ў трэцяй дэкадзе чэрвеня і пройдзе ў нашай сталіцы, што называецца, з размахам. У яго рамках – ажно тры спаборніцтвы: 20–24 чэрвеня – кругавы турнір сяброў і калег Віктара Давыдавіча; 20–24 чэрвеня – міжнародны турнір па хуткіх шахматах; 24 чэрвеня – 2 ліпеня – міжнародны турнір аматараў шахмат. Першы і другі чэмпіянаты адбудуцца ў сталічным Палацы спорту (праспект Пераможцаў, 4), а трэці – у гатэлі "Вікторыя Алімп".



Да ўдзелу ў турніры запрошаны былыя сябры і калегі В.Д.Купрэйчыка – міжнародныя гросмайстры Рафаэл Ваганян (Арменія), Юрый Балашоў, Яўгеній Свешнікаў, Валерый Чэхаў (Расія), Аляксандр Бяляўскі, Генадзь Кузьмін, Віктар Тукмакоў (Украіна), Вячаслаў Дыдышка (Беларусь), міжнародныя майстры Валерый Жыдкоў (Расія), Яўгеній Мачалаў, Валерый Смірноў (Беларусь), майстар спорту СССР Уладзімір Верамейчык (Беларусь), кандыдат у майстры спорту Уладзімір Абламскі (Беларусь). Усе выдаткі, звязаныя з правядзеннем гэтага спаборніцтва (праезд, пражыванне ў гатэлі, харчаванне, прызавыя (а іх атрымае кожны ўдзельнік) бярэ на сябе БФШ.

У кожнага спаборніцтва – свае ўмовы, свой рэгламент, а ўсе яны праводзяцца з мэтай увекавечання памяці В.Д.Купрэйчыка, прапаганды і папулярызацыі шахмат у Рэспубліцы Беларусь, умацавання спартыўных міжнародных сувязяў.

Самым масавым чакаецца, пэўна, турнір па хуткіх шахматах. Удзельнікаў чакаюць 11 тураў: па чатыры ў першыя два дні і тры – у заключны дзень. Пераможцы, вядома, атрымаюць узнагароды – медалі, дыпломы і грашовыя прызы. А іх нямала. Шэсць асноўных, апроч таго, спецыяльныя: за лепшыя паказчыкі сярод жанчын, юнакоў і дзяўчат да 18-гадовага ўзросту, сярод ветэранаў і г.д. Устаноўлены і два прызы Акадэміі шахмат імя Віктара Купрэйчыка: самаму старэйшаму і самаму юнаму ўдзельнікам турніру.

Але, перш чым думаць пра ўзнагароды, трэба да 10 чэрвеня падаць заяўку на ўдзел у турніры і ажыццявіць турнірны ўзнос… Пра ўсё, што тычыцца Мемарыялу Віктара Купрэйчыка ў Мінску, больш падрабязна можна даведацца на сайце БФШ.

Хочацца пажадаць поспехаў усім, хто ўзяў на ўзбраенне каштоўныя ўрокі выбітнага беларускага Гросмайстра з вялікай літары, яго няўхільную волю да перамогі!

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Расцяробы Арсеня Ліса

У старых беларускіх інтэлігентаў было ва ўжытку адно надзвычай ёмкае вызначэнне – шляхотны. Так гаварылася пра чалавека высокай годнасці, пранiклiвага розуму, з моцнай нацыянальнай сарцавінай, якую не маглі падтачыць самыя ўедлівыя шашалі. Такім шляхотным беларусам мне заўсёды бачыўся Арсень Ліс – доктар філалогіі, этнограф, мастацтвазнавец, фальклярыст, найлепшы спецыяліст па гісторыі і культуры Заходняй Беларусі. Ён быў чалавекам-энцыклапедыяй, заходнебеларускія рэаліі ведаў у падрабязнасцях і шчодра дзяліўся сваімі ведамі з маладзейшымі даследчыкамі.

Здабываў Арсень Сяргеевіч матэрылы для сваіх кніг не толькі з архіваў (пераважна вільнюскіх), але і з першакрыніц – ад непасрэдных удзельнікаў гістарычных падзей. Не азіраючыся на тое, што многія з іх, вярнуўшыся з лагераў і высылак, жылі пад наглядам спецслужбаў. Скажам, неяк наведаў у Гродне Браніслава Ржэўскага – былога інстытуцкага выкладчыка, асуджанага "за нацыяналізм" ужо ў пасляstaлінскія часы. Наколькі рызыкоўным быў той візіт, сведчыць і пазнейшы ўспамін Ліса пра тое, як яго тады цэлы дзень суправаджалі па гродзенскіх вуліцах двое віжоў.

Калі яшчэ ў студэнцтве мне трапіла ў рукі і была прачытаная на адным дыханні яго кніга "Вечны вандроўнік" (пра мастака Язэпа Драздовіча), я зразумеў, што проста павінен пазнаёміцца з гэтым аўтарам як мага больш падрабязна. І з цягам часу у маёй бібліятэцы апынуліся ўсе кнігі Ліса. І пра Браніслава Тарашкевіча – расстралянага ў 1938-м лідара-арганізатара беларускага жыцця ў міжваеннай Польшчы. І пра Міколу Шчакаціхіна – загубленага ў 1940-м даследчыка беларускага мастацтва, які першым разгледзеў яго ў кантэксце агульнаеўрапейскім. І пра мастака Пётру Сергіевіча, які, жывучы пасля вайны ў Вільнюсе, незаслужана апынуўся як бы наводшыбе. І пра яшчэ аднаго заходнебеларускага мастака Язэпа Горыда, вернутага даследчыкам літаральна з поўнага забыцця. Зразумела, што ў маім кнігазборы з'явіліся – адразу ж па выхадзе ў свет – і дыхтоўна выдадзеная кніга "Цяжкая дарога свабоды", і аб'ёмны выніковы фаліянт – 754 шырокафарматныя старонкі! – пад назвай "Gloria victis!" ("Слава пераможаным!").

Героях сваіх кніг сам даследчык называў дойлідамі беларускай дзяржаўнасці. Над іхнімі жыццяпісамі ён працаваў апантана – збіраў па каліўцу ў архівах, апытваў старажылаў ("віленскіх недабіткаў", як яны самі сябе называлі). І – вярталіся з аплеценых павуцінай бяспамяцтва цёмных камораў Аляксандр Уласаў, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Аляксандр Цвікевіч, Тамаш Грыб, Аркадзь Смоліч, Антон Грыневіч, тыя ж Тарашкевіч і Шчакаціхін…

"Почему Лис поднимает этих мертвецов?" – яшчэ ў канцы 1960-х дапытваўся адзін служака з таго фронту, які прынята называць нябачным, у выкліканых на размову супрацоўнікаў "падапечнай" яму Акадэміі навук. Няўцям было таму служаку, што малады даследчык "падымае" зусім не нябожчыкаў, а выбудоўвае пантэон нацыянальнай гісторыі.

Арсень Ліс насяляў той пантэон не бронзавымі помнікамі, а жывымі людзьмі. Скажам, рэдактар "Нашай Нівы" Аляксандр Уласаў у яго не толькі ўмелы выдавец і палітык, але і спрактыкаваны гаспадарнік, які яшчэ сто гадоў таму разумеў, што лес – нацыянальнае багацце беларусаў, з якім трэба абыходзіцца ашчадна. Пасля разбуральнай Першай сусветнай вайны Уласаў падлічыў, што на пабудову 200.000 хат пойдзе 36 мільёнаў дрэў. Адсюль выснова – Беларусь можа ператварыцца ў аравійскую пустэльню. І стары нашанівец прасіў знаёмых архітэктараў праектаваць будынкі з цэглы, каменя і жалеза. І насамрэч – дойлід.

У кнігах Арсеня Ліса цікава чытаць літаральна ўсё. Ён умеў глядзець на даследаваную з'яву ці постаць з нечаканых ракурсаў. Скажам, першым напісаў пра маральную адказнасць Максіма Танка перад рэпрэсаванымі савецкай уладай паплечнікамі (у ГУЛАГу апынуліся ксёндз Адам Станкевіч, выдавец Янка Шутовіч, рэдактар часопіса "Крыгалом" Юры Кепель). Аказваецца, народны паэт не баяўся стукацца ў высокія кабінеты і ўратаваў, прыкладам, паэта Міхася Васілька, якога ў 1944-м загрэбла НКВД толькі за тое, што друкаваўся ў антысавецкай газеце "Раніца".

Арсень Ліс быў яшчэ і выдатным фалькларыстам – тэарэтыкам і практыкам, які з груваcткім бабінным магнітафонам абышоў не адзін дзясятак вёсак, вышукваючы залацінкі народнага меласу. Колькі ён запісаў тых песень – калядак і шчадровак, купальскіх і пятроўскіх, касецкіх і жніўных!

Ліс праз сваю энцыклапедычную дасведчанасць паўплываў на многіх. Легендарная Зоська Верас называла яго сваім будзіцелем. І абуджаных, раскатурханых ім ад летаргічнага сну – тысячы. Купалаўскі выраз "збіраць зярно к зярняці" быў яго жыццёвым крэда, нішто з напісанага папярэднікамі не павінна было прапасці. З якой любасцю Арсень Сяргеевіч публікаваў і каментаваў (часам ім жа інспіраваныя) мемуары Паўліны Мядзёлка, Янкі Багдановіча, Мікалая Улашчыка, Юліі Бібіла!

Працу Арсеня Ліса можна параўнаць хіба з карчаваннем лесу пад поле. Гэтую цяжкую працу ў народзе спрадвеку называлі расцяробам. Расцерабіць лясны гушчар, прыбраць сукаватыя старадрэвіны, выдраць з зямлі карэністыя пні – дзеля будучага палетка, які засеюць нашчадкі. Думаецца, дбайныя расцяробы Ліса яшчэ дадуць свае ўраджаі.

А яшчэ Арсень Сяргеевіч быў адданым і ўважлівым чытачом "Народнай Волі". Штотыдзень па тэлефоне мы з ім абмяркоўвалі тую ці іншую публікацыю, і ён быў для мяне самы аўтарытэтны arbiter elegantiarum, як Петроній у старажытным Рыме.

Спрацаваны і схварэлы, Арсень Ліс 31 мая назаўжды вярнуўся на сваю родную Смаргоншчыну, у слыннае Залессе. Там над яго апошнім прытулкам будзе вечна гучаць народжаны ў тым краі несмяротны паўстанцкі паланэз Агінскага, пра якога ён таксама паспеў напісаць...

ПАРАЎНАЕМ...

# «ГЛЯНЦАВАЯ» ГІСТОРЫЯ

*У Польшчы выходзіць з дзясятак папулярных часопісаў пра мінуўшчыну. А ў Беларусі?*

Як вядома, спецыялізаваныя навуковыя выданні чытаюць вучоныя. Для сябе яны туды і пішуць. А для астатняга народа выдаюцца глянцавыя часопісы: без навуковых спасылак, затое з вялікай колькасцю ілюстрацый. Аднак у Беларусі няма ніводнага такога часопіса пра гісторыю. А вось у Польшчы – з дзясятак, калі не больш.

Між тым патрэба ў такіх выданнях у Беларусі ёсць. Няма толькі прапановы.

Большасць беларусаў яшчэ не можа пахваліцца высокім узроўнем гістарычнай свядомасці. Успамінаю, як адзін з тэлеканалаў праводзіў апытанне на вуліцах Мінска, і аказалася, што выпадкова сустрэтыя гараджане не маглі адрозніць Скарыну ад Машэрава, Купалу ад Коласа… Што ўжо казаць пра больш складаныя пытанні: некаторыя дзяржаўныя дзеячы не могуць разабрацца, чым была Беларуская Народная Рэспубліка! Хаця дакументы і факты сабраны ды апублікаваны. Але хто чытае навуковыя зборнікі? У тым і справа. Усё, здавалася б, ляжыць на паверхні, але даступна не ўсім.

Як папулярызаваць гісторыю? Гэтаму ў палякаў можна павучыцца.

У Польшчы не баяцца гаварыць пра самыя спрэчныя эпізоды ўласнай гісторыі. Пляцоўкай для такіх дыялогаў, а то і спрэчак з'яўляецца гістарычны «глянец».

Але, папярэджвае Лешак Бэндкоўскі, вядучы рэдактар часопіса Polityka, успрыняцце гісторыі не можа быць незалежным ад палітыкі: «*Гісторыю інтэрпрэтуюць па-рознаму: навукоўцы імкнуцца да таго, каб пра нешта даведацца, а палітыкі – каб нешта абгрунтаваць. Журналісты ж змушаны паддавацца спакусе табладаізацыі: каб чытач купіў выданне, трэба ўздзейнічаць на яго эмоцыі. Хто гучней пра нешта скажа, той і заваюе пакупніка інфармацыі*».

Такім чынам, не варта чакаць ад гістарычнага «глянцу» аб'ектыўнасці. Бо, аказваецца, чытачу не заўсёды патрэбна чыстая праўда. Яго прываблiваюць эмоцыі. Але, лічаць




Глянцавыя гістарычныя часопісы ў газетным кіёску ў Варшаве.

рэдактары польскіх гістарычных часопісаў, усё ж ім удаецца лавіраваць паміж аб'ектывізмам і попытам публікі на «гарачае». Ялянта Зарэмбіна, рэдактар выдання Pomocnik Historyczny, дадатку да часопіса Polityka, звяртае ўвагу на псіхалогію чытача: «*Цяперашнія дваццацігадовыя ўспрымаюць свет не так, як гісторыкі. Яны не сочаць за храналогіяй і логікай падзей. Як карыстальнікі інтэрнэту, яны шукаюць у мінулым яркіх плям, якія прываблiваюць іх, і тады клікаюць на іх*». Інакш кажучы, сёння стаіць праблема «перакладу» гісторыі з навуковай мовы на «інтэрнэтную», якой карыстаецца сучаснае пакаленне чытачоў. Толькі так можна данесці веды да шырокіх мас.

У Польшчы гістарычны «глянец» мае розныя адценні – ад ліберальнага да кансерватыўнага. Чытач галасуе злотым: купляе тыя выданні, якія яму даспадобы. А самыя папулярныя тэмы, паводле назіранняў М.Мацяроўскага, – гэта Другая сусветная вайна і часы сацыялізму. А яшчэ польска-нямецкія, польска-яўрэйскія адносіны. Чаму? Бо ёсць жывыя людзі, якіх гэта кранае за жывое. У Беларусі гэта таксама турбуе многіх. Але гістарычнага «глянцу» няма. Мо таму, што ёсць афіцыйная версія гісторыі, па-за межы якой нельга выходзіць?

Польскія палітыкі актыўна абмяркоўваюць, спрачаюцца пра гісторыю, і гэта падаграваe да яе грамадскі інтарэс. У Беларусі чыноўнікі маўклівыя, як рыбы. Яны азіраюцца… Асноўныя дыскусіі адбываюцца на малапапулярных сайтах і ў "Фэйсбуку", які ў Беларусі таксама не самая запатрабаваная масамі сацыяльная сетка.

Зрэшты, беларусы спрабавалі стварыць гістарычны «глянец». Існаваў у 1990-я гады часопіс «Беларуская мінуўшчына», можна ўспомніць нават савецкія «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», на змену якім прыйшоў у першыя гады незалежнасці часопіс «Спадчына». Часопіс Arche імкнуўся да «глянцавасці», але потым яго выключылі з сістэмы распаўсюджвання «Белсаюздруку», і дзе ён зараз?

Попыт на гістарычныя веды ў Беларусі, думаецца, ёсць. Але польскія выданні маюць магчымасць даваць рэкламу, зарабляць грошы, свабодна распаўсюджвацца. Гэта не толькі сродкі масавай інфармацыі, але і бізнес-праекты. І яны павінны быць прыбытковымі. Пакуль так і ёсць.

Хто ў Беларусі стане даваць рэкламу ў недзяржаўнае выданне пра гісторыю? Магчыма, адказ на гэтае пытанне дазволіць зразумець, чаму ў краіне няма гістарычнага глянцу.

**Віктар КОРБУТ.**
**Варшава.**
**Фота аўтара.**

«ПРЯМАЯ ЛИНИЯ»

# Темнеет кожа на ногах. Это варикоз?

*«Прямые линии», которые редакция «Народной Воли» проводит с врачами медицинского центра «ЛОДЭ», всегда очень популярны у наших читателей. Традиционно двух часов, отведенных на ответы специалиста, не хватает, и вопросы поступают после того, как прием телефонных звонков заканчивается.*

*Сегодня мы публикуем ответ хирурга Владимира Павленко на вопрос нашей читательницы Лилии Врублевской.*

**– У сына была операция на головном мозге, его облучали, и после этого ноги стали темнеть: от щиколотки и вверх красные, даже с синевой. Ставят диагноз «варикоз». Сын лечится, а синева не уменьшается, наоборот разрастается. Слабость в ногах появилась. Может, это не варикоз?**

– Ставят какой диагноз: варикоз глубоких вен или поверхностных?

**– Глубокие вены по результатам УЗИ в норме.**

– В его ситуации могут быть не только венозные, но и лимфатические поражения сосудов. Лучевая терапия хоть и локальная, может воздействовать на лимфатический отток, вызывать его затруднение.

При нейротрофических изменениях в конечностях кожа также темнеет. Но трофические язвы образуются не при начальных стадиях варикоза, а когда есть варикозная болезнь 3–4-й степени, когда клапаны не работают, идет постоянный застой крови, появляются отеки, и есть показания к оперативному лечению.

Не стоит забывать, что есть сердечные язвы, нейротрофические язвы нижних конечностей, которые могут образовываться при малейшем повреждении. Учитывая, что у вашего сына было повреждение головного мозга, проводилась лучевая терапия, то не исключено, что где-то нарушена иннервация, обратная связь с нервами нижних конечностей. И нарушение трофики (иннервация сосудов, артерий, вен) связана именно с неврологической симптоматикой. На этом фоне также могут образоваться нейротрофические отеки, язвы. Вашему сыну желательно также проконсультироваться с невропатологом.

**– А как бороться с трофическими язвами? Почему они появляются?**

– Трофические язвы появляются из-за нарушения микроциркуляции в тканях, в результате чего нарушается их питание, уменьшается количество поступающего кислорода и не выводятся вредные вещества. Все это в комплексе и приводит к образованию язв.

Лечение язв длительное и трудоемкое. В западных странах подсчитали, что профилактика появления язв обходится государству значительно дешевле. Поэтому профилактика прежде всего (препараты, компрессионное белье, своевременная операция, правильное питание: нужно исключить острую и соленую пищу, провоцирующую отечный синдром). Лечение заключается в устранении причин венозного застоя. Это может быть склеротерапия, лазерная коагуляция на венах; медикаментозная и компрессионная терапия, очищение ран – лазером, ультразвуком, местно мазями и повязками. Весь процесс может занимать до года. Иногда требуется пересадка кожи на язвенный дефект.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

НА ЗАМЕТКУ

# Как избавить дачный участок от кротов



*Профессиональный «ликвидатор кротов» с многолетним опытом рассказал, что нужно делать, чтобы избавить от кротов дачный участок, и какие методы борьбы с этими зверьками не действуют.*

С началом весенне-летнего сезона многим дачникам не дают покоя кроты, которые каждый год с завидным постоянством истребляют растения, прокладывая под ними длинные ходы, и портят внешний вид участка. Люди используют всевозможные народные средства, чтобы избавиться от этой напасти, но они далеко не всегда срабатывают.

О том, как эффективно бороться с вредными зверьками, рассказал эколог и профессиональный «ликвидатор кротов» Николай Васильевич Жуков.

## Борьба по-народному

Каких только народных способов борьбы с кротами не найдешь в интернете! Дачникам настоятельно рекомендуют вкапывать в землю бутылки, в которых воет ветер, который якобы отпугивает зверьков, закапывать селедочные головы, сажать бобы и даже заливать кротовые ходы водой. Николай Васильевич борется с кротами на протяжении долгих лет и на практике проверил, насколько такие методы эффективны.

«В первую очередь дачники, которые собираются бороться с кротами, не должны верить в сказки. «Ветрячки» и различные шумовые приспособления не работают. Советуют еще различную химию заливать, подкладывать таблетки – это тоже неэффективно. Также рекомендуют сажать бобы на участке, чтобы отвадить зверьков. Все эти народные методы – глупость», – уверяет профессиональный кротолов.

Есть еще миф о том, что срабатывают устройства на батарейках, которые распространяют ультразвуковые волны. «Я их называю «пищалки». Так вот, их в большом количестве установили несколько лет назад на одном участке на территории резиденции президента. Они не сработали! Более того, кроты их закопали, а охрана с металлодетекторами потом искала их», – рассказывает Николай Васильевич.

По его словам, использовать эти методы, конечно, можно. Но не стоит ждать, что кроты уйдут с дачного участка и больше не будут портить газон и урожай.

## На крота – с лопатой

Николай Васильевич утверждает, что самое грозное оружие дачника против крота, которое всегда под рукой, – это лопата. С помощью этого инструмента можно эффективно «выселить» зверьков с участка и при этом оставить их в живых.

«Есть ходы двух уровней. На случай засухи они проходят на глубине сантиметров 25–30. Как только проходит дождь, дождевые черви поднимаются, а за ними поднимаются и кроты, ведь это их еда. Бывает такое, что его поверхностный ход с приподнятой землей на несколько метров идет. Все эти приподнятые ходы надо полностью притоптать. И потом постоянно присматривать за этими местами, поскольку крот там, где прошел один раз, пройдет еще и ход восстановит», – объясняет логику животного эколог.

Когда крот начинает восстанавливать ход, земля снова поднимается. Нужно дать ему восстановить около двух метров хода, а за это время вернуться к месту, откуда зверек начал его восстанавливать, при этом держа лопату наготове.

«Примерно метр восстановленного хода нужно резко начать затаптывать, крот это услышит и мгновенно либо развернется, либо задним ходом побежит и начнет лихорадочно рыть затоптанный ход по новой. В этот момент нужно перед ним воткнуть лопату на весь штык и резко повернуть зверька вправо или влево вместе с землей. Нужно очень быстро его словить, потому что он может скрыться в глубину всего за пять секунд. После этого надо посадить крота в глубокое ведро и отнести подальше в лес – там он будет уничтожать насекомых-вредителей и не принесет серьезного вреда», – пояснил Николай Жуков.

По словам эксперта, нужно помнить, что кроты очень чуткие, поэтому шаги человека хорошо слышат. «А еще крот очень шустрый и быстро бегает как вперед, так и задним ходом. У него есть хвост, покрытый жесткими волосками, – это механический радар. Он бежит «на задней передаче» и этим хвостом ощупывает стенки и выясняет, где повороты», – говорит кротолов.

## Ловушка для крота

Еще один эффективный способ борьбы с кротами – кротоловки. Самые простые, которые используются уже не один десяток лет, сделаны из проволоки. Но их обязательно надо проверять перед покупкой, потому что проволока бывает перекаленной, и, когда ловушка срабатывает, она разваливается. Также их нужно немного поправлять перед установкой и чутко устанавливать сторожок. Такие кротоловки нужно устанавливать по две, а кольца должны быть направлены в разные стороны, потому что не известно, откуда крот прибежит.

«Есть более современные кротоловки, я их называю крокодилами. Выпускают такие в России, в Польше и в Германии, белорусские производители такие не делают. Но в садовых центрах их можно найти – их привозят на продажу. Такая ловушка стоит около 10 рублей, а проволочные дешевле. Ими нужно уметь пользоваться. По инструкции сторожок нужно ставить в выступы, но я рекомендовал бы ставить их шире, потому что кроты бывают и довольно упитанные. Тогда зверек идет смело и попадается. Такая снасть ставится по одной в тоннель», – рассказал Николай Жуков.

По словам «ликвидатора кротов», вероятнее всего, кроты не живут на территории дачи, а просто роют там кормовые ходы. Поэтому участок, изрытый кротами, нужно обойти по периметру с четырех сторон и найти постоянные ходы, по которым зверек туда приходит.

«На участке он начинает строить норы и петлять: чем больше ходов, тем больше вероятность найти червяка. Нет смысла ставить снасти по всей территории участка. Кротоловки нужно ставить в местах, где постоянные ходы и где грунт плотный и твердый, только в местах перехода. В рыхлую землю ловушку ставить нельзя, потому что крот ее либо поднимет, либо закопает глубоко», – делится секретом эколог.

## Что еще нужно знать о кротах и борьбе с ними

Кроты обитают везде, за исключением песчаных почв. Обычно зверек имеет размер 12–16 сантиметров и весит до 120 граммов. Вопреки расхожему мнению, что кроты – ночные животные, они роют землю круглосуточно, с небольшими перерывами.

«Без корма крот долго не живет: если его поймать и в течение трех часов ему не дать корма, он погибнет. Обмен веществ у него очень бурный, он съедает за сутки примерно в полтора раза больше собственного веса. Поэтому ему приходится активно искать пищу. К тому же кроты довольно плодовитые: они приносят потомство два раза за сезон, и у них в помете обычно по 8–10 детенышей. В Беларуси сейчас настоящее нашествие», – отметил Николай Васильевич.

Нужно понимать, что эффект от отлова кротов держится всего неделю. Кроты распространяются очень быстро. «Допустим, самка живет на территории 20 соток – ей этого участка хватает, чтобы прокормить свое семейство. Но уже через месяц, когда детеныши становятся самостоятельными, взрослый крот их выгоняет, и они уходят искать новую территорию, на которой смогут прокормиться. За сезон кроты очень далеко расходятся», – подчеркнул специалист.

Еще один важный момент, который упускают дачники: если кроты есть и у соседей, то гонять их нужно всем одновременно, как тараканов. «Вы свою территорию освободите, а туда придут зверьки с других участков. Это будет бесконечный круговорот кротов», – улыбается эколог.

По его словам, самое главное в борьбе с кротами – это терпение. «Не всегда удается выловить их с первого раза, но если делать это методично, то все получится», – заключил Николай Жуков.

(«Sputnik».)

ЧУЛІ?

# Абавязкова на беларускай мове!

**З наступнага года сайты дзяржаўных органаў і арганізацый будуць абавязаны размяшчаць інфармацыю на беларускай мове**

Пра гэта паведаміла Міністэрства інфармацыі ў сваім адказе на зварот Партыі БНФ датычна змен у закон "Аб сродках масавай інфармацыі", якія былі прыняты 19 красавіка ў першым чытанні.

У лісце за подпісам міністра інфармацыі **Аляксандра Карлюкевіча** паведамляецца, што, згодна з абноўленымі правіламі, інфармацыя на дзяржаўных інтэрнэт-сайтах павінна быць прадстаўлена на дзвюх дзяржаўных мовах – рускай і (або) беларускай, пры гэтым дадаецца пералік інфармацыі, якая павінна быць у абавязковым парадку на дзвюх мовах.

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

# Вакол футбола

Талісманам чэмпіянату свету па футболе 2018 года стаў воўк "Забівака", якога прыдумала студэнтка-дызайнер Кацярына Бачарова. Галоўны сімвал турніру абіралі шляхам анлайн-галасавання.

•••

Галоўны трэнер зборнай Нігерыі Гернат Рот забараніў усім футбалістам сваёй каманды падчас чэмпіянату секс з рускімі дзяўчатамі. Выключэнне зроблена толькі для капітана каманды Мікела, у якога ёсць знаёмая ў Расіі. У той жа час настаўнік не бачыць праблемы ў тым, каб ігракоў наведвалі жонкі.

•••

Падчас чэмпіянату Міжнародная федэрацыя футбола не дапусціць расійскіх спецыялістаў да працэдур з допінг-пробамі.

•••

Абаронца мадрыдскага "Рэала" і зборнай Іспаніі Серхіа Рамас выпусціў сумесны кліп са спеваком Дэмарка Фламенка ў падтрымку нацыянальнай каманды. Песня называецца "Яшчэ адна зорка ў тваім сэрцы". Раней Рамас апублікаваў фрагмент кліпа на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках.

•••

Заканадаўчы сход Санкт-Пецярбурга зацвердзіў закон аб абмежаванні продажу алкаголю падчас чэмпіянату. Будзе ўведзена забарона на продаж алкагольных напояў напярэдадні і ў дні правядзення матчаў, акрамя паслуг арганізацый грамадскага харчавання. Такія ж абмежаванні ўведзены ў Маскве і Казані.

Акрамя таго, з 10 мая ў расійскіх рэгіёнах быў уведзены супрацьпажарны рэжым на час правядзення чэмпіянату. У гэты перыяд забаронена смажыць шашлыкі.

•••

У Растове-на-Доне, дзе таксама будуць праходзіць матчы чэмпіянату, на фасадах дамоў намалявалі 127 шчаслівых растаўчан. Як жартуюць у сацыяльных сетках самі расіяне: "А затым шчаслівых растаўчан будуць змываць ужо рэальна панурыя растаўчане".

•••

Для брытанскіх фанатаў склалі рэкамендацыю, як весці сябе на чэмпіянаце свету ў Расіі. Таблоід The Sun нават надрукаваў некалькі неафіцыйных парад.

*«Калі вы п'яце з рускімі, то закусвайце,* – раяць англійскім заўзятарам. – *Гарэлку п'юць залпам, але не хвалюйцеся, калі не атрымаецца. І не змешвайце гарэлку з півам, бо зранку будзе пахмелле і моцны галаўны боль. Але пахмелле ў вас у Расіі ўсё роўна будзе. І яго варта лячыць баршчом".*

ГОЛ!

# Расклад матчаў ЧЭМПІЯНАТУ СВЕТУ ПА ФУТБОЛЕ-2018

*14 чэрвеня стартуе сусветнае футбольнае першынство, якое пройдзе ў 11 гарадах Расіі.*

**Склад груп:**

**Група A:** Расія, Уругвай, Егіпет, Саудаўская Аравія.

**Група B:** Партугалія, Іспанія, Іран, Марока.

**Група C:** Францыя, Перу, Данія, Аўстралія.

**Група D:** Аргенціна, Харватыя, Ісландыя, Нігерыя.

**Група E:** Бразілія, Швейцарыя, Коста-Рыка, Сербія.

**Група F:** Германія, Мексіка, Швецыя, Паўднёвая Карэя.

**Група G:** Бельгія, Англія, Туніс, Панама.

**Група H:** Польшча, Калумбія, Сенегал, Японія.



КАЛЯНДАР ГУЛЬНЯЎ

**ГРУПА A**

**1-ы тур**
14 чэрвеня. Расія – Саудаўская Аравія
15 чэрвеня. Егіпет–Уругвай

**2-і тур**
19 чэрвеня. Расія–Егіпет
20 чэрвеня. Уругвай – Саудаўская Аравія

**3-і тур**
25 чэрвеня. Уругвай–Расія
25 чэрвеня. Саудаўская Аравія – Егіпет

**ГРУПА B**

**1-ы тур**
15 чэрвеня. Партугалія–Іспанія
15 чэрвеня. Марока–Іран

**2-і тур**
20 чэрвеня. Партугалія–Марока
20 чэрвеня. Іран–Іспанія

**3-і тур**
25 чэрвеня. Іран–Партугалія
25 чэрвеня. Іспанія–Марока

**ГРУПА C**

**1-ы тур**
16 чэрвеня. Францыя–Аўстралія
16 чэрвеня. Перу–Данія

**2-ы тур**
21 чэрвеня. Францыя–Перу
21 чэрвеня. Данія–Аўстралія

**3-ы тур**
26 чэрвеня. Данія–Францыя
26 чэрвеня. Аўстралія–Перу

**ГРУПА D**

**1-ы тур**
16 чэрвеня. Аргенціна–Ісландыя
16 чэрвеня. Харватыя–Нігерыя

**2-і тур**
21 чэрвеня. Аргенціна–Харватыя
22 чэрвеня. Нігерыя–Ісландыя

**3-і тур**
26 чэрвеня. Нігерыя–Аргенціна
26 чэрвеня. Ісландыя–Харватыя

**ГРУПА E**

**1-ы тур**
17 чэрвеня. Бразілія–Швейцарыя
17 чэрвеня. Коста-Рыка–Сербія

**2-і тур**
22 чэрвеня. Швейцарыя–Сербія
22 чэрвеня. Бразілія – Коста-Рыка

**3-і тур**
27 чэрвеня. Бразілія–Сербія
27 чэрвеня. Швейцарыя – Коста-Рыка

**ГРУПА F**

**1-ы тур**
17 чэрвеня. Германія–Мексіка
18 чэрвеня. Швецыя – Паўднёвая Карэя

**2-і тур**
23 чэрвеня. Паўднёвая Карэя – Мексіка
23 чэрвеня. Германія–Швецыя

**3-і тур**
27 чэрвеня. Мексіка–Швецыя
27 чэрвеня. Паўднёвая Карэя – Германія

**ГРУПА G**

**1-ы тур**
18 чэрвеня. Бельгія–Панама
18 чэрвеня. Туніс–Англія

**2-і тур**
23 чэрвеня. Бельгія–Туніс
24 чэрвеня. Англія–Панама

**3-і тур**
28 чэрвеня. Англія–Бельгія
28 чэрвеня. Панама–Туніс

**ГРУПА H**

**1-ы тур**
19 чэрвеня. Польшча–Сенегал
19 чэрвеня. Калумбія–Японія

**2-і тур**
24 чэрвеня. Японія–Сенегал
24 чэрвеня. Польшча–Калумбія

**3-і тур**
28 чэрвеня. Сенегал–Калумбія
28 чэрвеня. Японія–Польшча

30 чэрвеня – 3 ліпеня адбудуцца матчы 1/8 фіналу, 6–7 ліпеня пройдуць чвэрцьфінальныя гульні. 10 ліпеня – матчы 1/2 фіналу.

14 ліпеня ў Санкт-Пецярбургу – матч за 3-е месца. Фінал пройдзе 15 ліпеня ў Маскве на стадыёне «Лужнікі».

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# Іх адфутбалілі...

Усё-такі мне падаецца, што гэты чэмпіянат свету па футболе будзе не зусім паўнавартасным. Безумоўна, мы ўбачым і драматычныя матчы, і прыгожыя галы, магчыма, заззяюць і новыя зоркі, але тым не менш...

Не падтрымаюць балельшчыкі гэтым разам зборную Італіі – каманду, якая чатыры разы выйгравала чэмпіянат свету, два разы выходзіла ў фінал, а ў 1990 годзе заваявала "бронзу". Італьянцы не патрапілі на чэмпіянат упершыню з 1958 года (!), і гэта інакш як непрыемнай сенсацыяй не назавеш. Італьянскія фанаты могуць падзякаваць за такі "падарунак" цяпер ужо былому трэнеру зборнай Джамп'ера Вентуры, які прымаў такія дзіўныя рашэнні, што яго не разумелі ні футбалісты, ні балельшчыкі.

Яшчэ адзін няўдачнік – зборная Галандыі, за якую многія балеюць і ў Беларусі. Гуліт, Ван Бастэн, Рабэн... Зоркі, ад гульні якіх проста захоплівала дух! На жаль, "аранжавыя" зараз перажываюць не самыя лепшыя часы і прапускаюць ужо другі топавы турнір – і на чэмпіянаце Еўропы-2016 галандцаў не было.

Зборная Чылі таксама заўсёды ўпрыгожвала сваёй гульнёй чэмпіянаты, але шлагбаум на шляху ў Расію чылійцы паставілі, можна сказаць, самі сабе. 6 верасня мінулага года каманда Чылі гуляла дома з Балівіяй, матч закончыўся ўнічыю – 0:0. У складзе гасцей быў 33-гадовы абаронца Нельсан Кабрэра. Высветлілася, што раней гэты футбаліст выступаў за зборную Парагвая, а з таго моманту, як атрымаў балівійскі пашпарт, не прайшло пяці гадоў. Толькі пасля гэтага тэрміну ігрок можа заяўляцца за новую зборную. Чылійцы доўга думаць не сталі і падалі пратэст у ФІФА. У выніку Балівіі прысудзілі тэхнічнае паражэнне, і колькасць ачкоў у зборнай Чылі павялічылася з аднаго да трох. Але чылійцы не ўлічылі, што той жа Кабрэра выходзіў на поле і ў матчы Балівіі з Перу. І тая гульня закончылася перамогай балівійцаў з лікам 2:0. Натуральна, пасля разгляду пратэсту Балівіі залічылі яшчэ адно тэхнічнае паражэнне, а перуанцам далі 3 ачкі. У выніку ў турнірнай табліцы Перу і Чылі набралі аднолькавую колькасць ачкоў, але па лепшай розніцы забітых і прапушчаных галоў перуанцы пакінулі чылійцаў за бартам чэмпіянату свету.

Шкада і камерунцаў, якія заўсёды ў павазе ў балельшчыкаў і журналістаў не толькі праз сваю гульню, але праз пастаянныя скандалы. Напрыклад, чатыры гады таму футбалісты зборнай Камеруна і члены афіцыйнай дэлегацыі ўзялі з сабой на першынство, якое праходзіла ў Бразіліі, сваіх прастытутак. Маўляў, можна было б і бразільскіх заказаць, але тыя не ведаюць мясцовай мовы. Шчыра кажучы, крыху дзіўныя хлопцы. Дзе ёсць любоў, там слоў не трэба!

Дома чэмпіянат будуць глядзець футбалісты зборных Уэльса, ЗША, Славакіі... Тыя, каго мы прызвычаіліся бачыць практычна на ўсіх грандыёзных футбольных форумах.

А вось зборная Беларусі абсалютна не засмуцілася з-за таго, што не паедзе на чэмпіянат свету па футболе. Па той простай прычыне, што мы туды ніколі і не ездзілі.

ФУТБОЛ

# У БАТЭ – трэнерская ракіроўка

*Барысаўскі клуб "забуксаваў" у чэмпіянаце.*

Паражэнне чэмпіёна Беларусі ў 10-м туры ад "Гарадзеі", якая займала апошні радок у турнірнай табліцы, стала, відаць, той самай кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення кіраўніцтва БАТЭ. І галоўны трэнер каманды **Алег Дулуб** быў адпраўлены ў адстаўку. Учора выконваючым абавязкі галоўнага трэнера БАТЭ прызначаны **Аляксей Бага.**

*"Рашэнне прынята праз нездавальняючыя вынікі каманды ў апошніх матчах: параза ў фінале Кубка Беларусі, страта ачкоў у гульнях з «Іслаччу» і «Гарадзеяй», а таксама праз занепакоенасць за стан каманды напярэдадні еўракубкаў",* – так патлумачылі ў барысаўскім клубе адстаўку трэнера.




Вось вынікі ўсіх матчаў 10-га тура: "Днепр" (Магілёў) – "Віцебск" – 0:1, "Дынама" (Мінск) – "Мінск" – 1:0, "Нёман" (Гродна) – "Шахцёр" (Салігорск) – 0:1, "Тарпеда" (Мінск) – "Дынама" (Брэст) – 1:1, "Гомель" – "Прамень" (Мінск) – 1:0, "Гарадзея" – БАТЭ (Барысаў) – 2:1, "Іслач" (Мінскі раён) – "Смалявічы" – 1:0, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Слуцк" – 2:0.

## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 10 | 8 | 1 | 1 | 15–4 | 25 |
| Дынама (Мн) | 10 | 7 | 2 | 1 | 14–4 | 23 |
| Віцебск | 10 | 6 | 2 | 2 | 13–7 | 20 |
| Шахцёр | 10 | 5 | 3 | 2 | 10–5 | 18 |
| Нёман | 10 | 5 | 3 | 2 | 9–6 | 18 |
| Тарпеда-БелАЗ | 10 | 4 | 3 | 3 | 9–7 | 15 |
| Слуцк | 10 | 4 | 3 | 3 | 10–9 | 15 |
| Дынама (Бр) | 10 | 2 | 6 | 2 | 13–14 | 12 |
| Іслач | 10 | 2 | 6 | 2 | 7–9 | 12 |
| Днепр | 10 | 2 | 4 | 4 | 6–9 | 10 |
| Прамень | 10 | 2 | 3 | 5 | 7–13 | 9 |
| Смалявічы | 10 | 1 | 4 | 5 | 6–11 | 7 |
| Гарадзея | 10 | 1 | 4 | 5 | 5–10 | 7 |
| Тарпеда | 10 | 1 | 4 | 5 | 4–13 | 7 |
| Гомель | 10 | 1 | 4 | 5 | 4–9 | 7 |
| Мінск | 10 | 1 | 4 | 5 | 11–13 | 7 |

ШАШКІ

## Нашага палку прыбыла

Вітаем дэбютантаў нашай рубрыкі! У міжнародныя шашкі сваю мініяцюру даслаў літоўскі гросмайстар **Валдас Беляўскас**, які зараз жыве і працуе у Іспаніі.



№1 **Белыя**: 6, 10, 14, 24, 34, 42 (6).
**Чорныя**: 7, 17, 23, 31, 37, 44 (6).
5, 1, 12, 49 х.

Другі дэбютант – майстар спорту Украіны, міжнародны майстар спорту **Міхаіл Левандоўскі** – прапануе свае кампазіцыі ў руская шашкі.

№2 **Белыя**: c1, e1, f2, g3, f4, c5, e5 (7).
**Чорныя**: a3, h2, b4, a5, d6, c7, e7 (7).
g5, b6, e3(c3), f4(cb2), g5, e3, a1(b4), ab2 x.
№3 **Белыя**: c1, b2, d2, f2, a5, g5, h6 (7).
**Чорныя**: d4, h4, e5, b6, d6, c7, e7 (7).
de3, a7(g5), f4, c3, c3(b6), c5, e3 x.
№4 **Белыя**: g1, d2, h2, c3, e3, g3, b4, h4 (8).
**Чорныя**: a5, g5, b6, f6, a7, e7, g7 (7).
cd4(e1), e5, a5, f2, f4(f6), e1 x.

## Для самастойнага абдумвання

Для самастойнага рашэння прапануем пазіцыі адэсіта **Сяргея Губачкіна**.

№7 **Белыя**: d4, f4, e5, b6, d6, c7 (6).
**Чорныя**: b2, d2, c3, b4, a5, f8 (6).
№8 **Белыя**: d4, e5, b6, h6, a7, g7 (6).
**Чорныя**: e3, f2, b4, c5, f6, h8 (6).
№9 **Белыя**: g3, f4, g5, d6, h6, c7 (6).
**Чорныя**: d2, h2, e3, e5, g7, h8 (6).

## Удасканальванне кампазітара

Мінчанін **Леанід Рыбакоў** спрабуе складаць кампазіцыі ў жанры "эцюды", некаторыя з іх ужо друкаваліся ў нашым аддзеле. Знаёмім з яго новымі творамі (№5 у апрацоўцы вядучага рубрыкі).

№ 5 **Белыя**: дамкі g1, b6, c7 (3).
**Чорныя**: шашкі a3, c3, f6 (3).
gc5(e5**ABC**), f4(ab2), c1(a1), b2(d2), a7, c1 x **A**(g5), d4, h6, d4 x **B**(ab2), b4, b8, a1 x **C**(cb2), e7, a7, a1 x.

№6 **Белыя**: дамкі g3, f4, d6 (3).
**Чорныя**: дамка d8, шашка f6 (2).
e1(e5**A**), g5!(c7**B**),eh4(b6), f6, a5 x **A**(g5, f6), g5, dg3 x **B**(h4), g3 x.

Вітаем творчыя памкненні нашага чытача і жадаем яму далейшага ўдасканальвання!

## «Міжнароднікі», ваш выхад!

У міжнародныя шашкі прапануем праблемы **Івана Наўроцкага**. На гэты раз тэматыка і фіналы мінскага маэстра самыя разнастайныя.

№10 **Белыя**: 17, 18, 21, 22, 23, 29, 40, 47 (8).
**Чорныя**: 7, 26, 30, 32, 34, 37, 38, 42, 45 (9).
42, 17-12, 1, 25, 5 x.
№11 **Белыя**: 19, 23, 24, 29, 30, 32, 34, 40, 49 (9).
**Чорныя**: 3, 8, 9, 12, 21, 22, 31, 35, 44 (9).
27, 13, 23, 4, 15, 30, 8, 43 x.
№12 **Белыя**: 11, 12, 16, 17, 18, 30, 31, 40, 49 (9).
**Чорныя**: 2, 6, 9, 19, 24, 28, 32, 33, 38 (9).
43, 8, 27, 3, 11, 50 x.
№13 **Белыя**: 14, 16, 18, 19, 20, 21, 22, 24, 35, 50 (10).
**Чорныя**: 1, 7, 12, 25, 31, 33, 34, 39, 42, 43, 45 (11).
11, 7, 30, 13, 3, 5, 44, 20, 6 x.
№14 **Белыя**: 18, 19, 22, 23, 24, 27, 28, 29, 31, 33, 40, 50 (12).
**Чорныя**: 10, 11, 14, 15, 17, 25, 34, 36, 38, 41, 42, 45 (12).
12, 20, 23-18, 20, 15, 4, 30, 44 x.

## Супаставім рашэнні

***"НВ" ад 10 красавіка 2018 года.***
№5 – d8, g3, g5, a3(d2), e7, e5, c1 x.
№6 – b6, d8, b2, e5, g5, e1 x.
№7 – c3, e7, h2(d4), g5, c3, (e5), g3 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі** (Мінск), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"***
або на электронны адрас рэдакцыі:
***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.06.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 220 экз. Заказ № 2070.

**Передвижной приемный пункт (ППП) вторсырья.**
**Velcom 8-029-191-11-87.**
ИП Лахаданов В.М. УНП 192680247 свидетельство от 21.07.2016.